«Штодзённа маліцеся Ружанец, каб выпрасіць супакой для свету і канец вайны»

Фаціма, 1917 г.



ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№3 (132) сакавік 2022 год

CATHOLICNEWS.BY

# Папа Францішак: ва Украіне цякуць рэкі крыві і слёз



**Падчас нядзельнай малітвы Анёл Панскі, якая 6 сакавіка прайшла ў Ватыкане, Папа Францішак скіраваў заклік у сувязі з драматычнай сітуацыяй ва Украіне.**

"Дарагія браты і сёстры! Ва Украіне цякуць рэкі крыві і слёз. Гэта не проста ваенная аперацыя, а вайна, якая сее смерць, разбурэнне і беднасць. Ахвяр становіцца ўсё больш, як і людзей, каторыя ўцякаюць, асабліва маці і дзяцей. У гэтай шматпакутнай краіне кожную гадзіну драматычным чынам узрастае патрэба ў гуманітарнай дапамозе.

Я накіроўваю мой настойлівы заклік, каб былі па-сапраўднаму забяспечаны гуманітарныя калідоры і быў гарантаваны і спрошчаны доступ да дапамогі на абложаных тэрыторыях, каб аказваць жыццёва неабходную дапамогу нашым братам і сёстрам, прыгнечаным бомбамі і страхам.

Дзякую ўсім, хто прымае ўцекачоў. Асаблівым чынам прашу, каб спыніўся ўзброены наступ і ўзялі верх перамовы і здаровы розум. А таксама, каб зноў паважалася міжнароднае права! Я хацеў бы падзякаваць таксама журналістам, якія рызыкуюць жыццём дзеля таго, каб забяспечваць інфармацыяй: дзякуй, браты і сёстры, за гэта ваша служэнне – служэнне, якое дазваляе нам быць блізкімі да трагедыі гэтага народа і дазваляе ацаніць бесчалавечнасць вайны. Дзякую, браты і сёстры", – сказаў Пантыфік, заклікаючы прысутных разам маліцца да Багародзіцы, Уладаркі Украіны.



**Цяжарная маладая жанчына эвакуюецца са знішчанай лякарні ў Марыупалі.**
*Фота з TELEGRAM Марыупальскага гарсавета*

Папа Францішак падкрэсліў, што Святы Пасад гатовы зрабіць усё магчымае, каб служыць міру, а таксама распавёў, што ў гэтыя дні ва Украіну адправіліся два кардыналы, каб служыць і дапамагаць: кардынал Конрад Краеўскі – Апостальскі элемазінарый, і кардынал Майкл Чэрны – прэфект Дыкастэрыі па служэнні інтэгральнаму развіццю чалавека. "Гэтая прысутнасць двух кардыналаў там – гэта прысутнасць не толькі Папы, але ўсяго хрысціянскага народа, які хоча быць блізкім і сказаць: "Вайна – гэта шаленства! Спыніцеся, калі ласка! Паглядзіце на гэту жорсткасць!", – сказаў Папа Францішак.

*Аляксандр Панчанка,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Зварот Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі

Мы, каталіцкія біскупы Беларусі, разам з нашымі вернікамі глыбока заклапочаныя тым, што працяглы палітычны канфлікт паміж Расіяй і Украінай перайшоў у фазу вайны. У выніку гінуць людзі, разбураюцца гарады, населеныя пункты і інфраструктура, сотні тысяч уцекачоў вымушаныя шукаць прытулку на чужыне.

Вайна – гэта злачынства супраць Бога і чалавека, якое заслугоўвае рашучага і неадкладнага асуджэння (пар. Другі Ватыканскі Сабор, Канстытуцыя Gaudium et spes, 80).

Мы суперажываем нашай паўднёвай суседцы Украіне, якая перажывае трагедыю. Падтрымліваем заклікі Святога Айца Папы Францішка і Апостальскага Пасаду, дыпламатычныя захады і перамовы Расіі і Украіны на беларускай зямлі з мэтай неадкладнага спынення ваенных дзеянняў і пошуку шляхоў да прымірэння. Але для таго, каб бакі маглі пачуць адзін аднаго, неабходна, каб змоўкла зброя.

Таксама мы занепакоеныя інфармацыйнай вайной, якая наносіць не меншую шкоду і правакуе нянавісць паміж людзьмі і народамі. Сёння, калі вырашаецца будучыня не толькі Украіны, неабходна зрабіць усё магчымае, каб знайсці мірнае вырашэнне канфлікту.

Заклікаем вернікаў і ўсіх людзей добрай волі да посту і салідарнай малітвы ў касцёлах нашай краіны ў інтэнцыі міру ва Украіне. Карыстаючыся магчымасцю адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, спеву суплікацыі «Святы Божа», Ружанцовай малітвы, Крыжовага шляху і іншых набажэнстваў з братэрскай любоўю і салідарнасцю аказваць пасільную дапамогу пацярпелым.

Мы молімся і просім, каб тыя, ад каго гэта залежыць, не дапусцілі, каб наша краіна прымала ўдзел у гэтай вайне.

*Аб'яднаныя*
*ў посце і малітве,*
*Біскупы Каталіцкага*
*Касцёла ў Беларусі*

# Паведамленне Старшыні ККББ біскупа Буткевіча ў сувязі з ваенным канфліктам ва Украіне



Дарагія браты і сёстры ў Хрысце, шаноўныя суайчыннікі!

Сёння раніцай свет скалыхнула трагічная навіна: паміж найбліжэйшымі да нас суседнімі краінамі распачаўся ваенны канфлікт. Здаровы розум і так моцна яшчэ жывая памяць пра наступствы падобных дзеянняў у гісторыі не сталіся эфектыўным стрымлівальным фактарам. Брат узняў руку на брата. Пачаў здзяйсняцца найгоршы сцэнар развязкі той напружанасці, якая ўжо доўгі час існавала паміж братнімі народамі. Так блізка, побач з намі, паміж Расіяй і Украінай, сярод блізкіх нам людзей пачалася вайна.

Гэтая сітуацыя не можа не адгукнуцца болем і ў нашых сэрцах. І калі заклік спыніць пачатую бязглуздасць ужо, напэўна, не будзе дзейсным, застаецца малітва. З глыбіні сэрца – просьба аб Божай міласэрнасці і прабачэнні для нас, Божых дзяцей, якія не ўмеюць мірна вырашаць нашыя непаразуменні і панаваць над сваімі хворымі амбіцыямі, аб спыненні братазабойчага канфлікту, які ва ўмовах сучаснай міжнароднай сітуацыі можа перарасці ў глабальную катастрофу.

Прашу, каб мы, захоўваючы спакой, узнеслі нашую малітву – як асабістую, так і ў парафіяльных супольнасцях, – аб як найхутчэйшым спыненні і як найменшых ахвярах распачатага канфлікту. Каб ён не перарос у чарговую сусветную вайну, і каб гэта не скончылася агульным апакаліпсісам. Хрыстус кажа нам: «Усё магчыма для таго, хто верыць». Дапамажы, Божа, нашаму бязвер'ю! (пар. Мк 9, 23–24). Таксама заахвочваю да посту і ахвяравання цярпенняў і пакутаў у гэтай інтэнцыі.

Божа, дай магчымасць апамятацца гэтаму свету і спашлі яму свой спакой, свой Божы спакой!

*+ Алег Буткевіч,*
*Біскуп Віцебскі, Старшыня ККББ*
*24.02.2022, catholic.by*

Каталіцкі ВЕСНІК
№3 (132)
сакавік 2022 г.



## Папа Рымскі наведаў амбасаду Расіі пры Святым Пасадзе

**Папа Францішак наведаў амбасаду Расійскай Федэрацыі пры Святым Пасадзе, гаворыцца ў паведамленні Залы Друку Апостальскай Сталіцы, апублікаваным 25 лютага.**

Адзначаецца, што падчас візіту, які працягваўся каля паўгадзіны, Святы Айцец выказаў свой непакой у сувязі з вайной ва Украіне.

На працягу некалькіх апошніх дзён Папа Францішак і яго найбліжэйшыя супрацоўнікі неаднаразова скіроўвалі заклікі да міру. Падчас агульнай аўдыенцыі 23 лютага ён прызнаўся, што адчувае вялікі боль у сэрцы з прычыны пагаршэння сітуацыі ва Украіне.

Пантыфік заклікаў усе бакі "ўстрымацца ад любых дзеянняў, якія прычыняць яшчэ большыя пакуты насельніцтву, дэстабілізуюць суіснаванне паміж дзяржавамі і дыскрэдытуюць міжнароднае правы". Па заклiку Папы Францішка ў Каталіцкім Касцёле 2 сакавіка, у Папяльцовую сераду, прайшоў Дзень посту ў інтэнцыі міру.

## Украінскі біскуп: вайна нас моцна з'яднала




Каталіцкі Касцёл у Адэсе не перастае рознымі спосабамі падтрымліваць мясцовае насельніцтва і моліцца за ахвяр вайны, якіх становіцца ўсё больш і больш.

"Мы пастаянна чуем сірэны паветранай трывогі, а час ад часу таксама і стрэлы. Гэта вельмі трывожна. Мы начуем у сховішчы ў падвале. На працягу дня, аднак, няспынна аказваецца падтрымка людзям", – распавёў Папскаму фонду "Дапамога Касцёлу ў патрэбе" біскуп Адэска-Сімферопальскі Станіслаў Шырокарадзюк.

Іерарх заўважыў, што ў касцёлах Адэсы святая Імша цэлебруецца некалькі раз на дзень, а святары заўсёды застаюцца даступнымі для людзей. "Прысутнасць святароў у касцёлах мае вялікае значэнне для вернікаў. Акрамя таго, пры святынях раздаюцца прадуктовыя наборы, іншыя рэчы першай неабходнасці і гарачае харчаванне для насельніцтва. Касцельныя падзямеллі служаць сховішчамі для людзей", – сказаў ён.

Біскуп Адэска-Сімферопальскай дыяцэзіі заўважыў, што многія жыхары з'ехалі на захад краіны ці за мяжу, таму Адэса цяпер з'яўляецца "напалову пустым горадам". "Усе, хто застаўся, трымаюцца разам. У горадзе пануе еднасць таксама і на экуменічным узроўні. Вайна нас моцна з'яднала. Не толькі католікаў, але таксама людзей іншых веравызнанняў і культур", – дадаў ён.

Іерарх выказаў падзяку Папскаму фонду за падтрымку і салідарнасць, а таксама звярнуў увагу на важнасць малітвы, асабліва ў якасці суцяшэння для сем'яў, што перажываюць жалобу па прычыне гібелі ахвяр вайны, якіх становіцца ўсё больш і больш. "Мы штодзённа молімся за мір. Важна маліцца за ўсіх, асабліва за тых, хто загінуў падчас гэтай вайны", – сказаў біскуп Шырокарадзюк.

## Пантыфік дапамог ахвярам вайны ва Украіне

Святы Айцец перадаў украінскім уцекачам медыцынскія матэрыялы. Шпрыцы, пластыры, дэзынфікацыйныя сродкі і іншыя неабходныя рэчы даставіў у цэнтр збору гуманітарнай дапамогі пры Украінскай Грэка-Каталіцкай Царкве святой Сафіі ў Рыме Апостальскі элемазінарый кардынал Конрад Краеўскі. У найбліжэйшы час ва Украіну адпраўляцца таксама лекі і прадукты харчавання з Ватыкана.



"Ватыкан гатовы дапамагаць тым, што знаходзіцца ў патрэбе. Мы не глядзім на нацыянальнасць, а на чалавека, які мае нястачу", – сказаў іерарх. Дапамога дастаўляецца грузавымі аўтамабілямі, якія прадаставіў для гэтых мэтаў сам украінскі бок.

Апостальская элезамінарыя накіравала таксама фінансавыя сродкі для аказання дапамогі ахвярам вайны ў свае дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў дзяржавах, куды накіроўваюцца ўцекачы. У прыватнасці, дапамогу атрымаў нунцый у Румыніі, які аказвае падтрымку ўкраінскім сем'ям, што знайшлі прытулак у касцельных структурах на тэрыторыі гэтай краіны.

## Папскі фонд ухваліў першы пакет дапамогі Украіне

Папскі фонд "Дапамога Касцёлу ў патрэбе" ўхваліў першы пакет неадкладнай дапамогі Украіне на агульную суму 1,17 мільёна еўра. Ён прадугледжвае фінансаванне дваццаці двух праектаў мясцовага Касцёла.



У першую чаргу дапамога прызначана для ўсходняй часткі Украіны, у прыватнасці, для чатырох экзархатаў Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы і дзвюх дыяцэзій лацінскага абраду: гаворка ідзе пра Харкаўскі, Адэскі, Данецкі і Крымскі экзархаты і Харкаўска-Запарожскую і Адэска-Сімферопальскую дыяцэзіі. Тут будзе ажыццяўляцца дзевяць праектаў на агульную суму ў 865 тысяч еўра. Астатнія рэсурсы адрасаваныя заходнім рэгіёнам Украіны, у першую чаргу Луцкай дыяцэзіі, праз тэрыторыю якой праходзяць патокі эвакуяваных, што накіроўваюцца ў Польшчу.

Сродкі будуць размеркаваныя кожным біскупам у адпаведнасці з канкрэтнымі патрэбамі святароў, кансэкраваных асобаў і свецкіх вернікаў, многія з якіх клапоцяцца пра дзіцячыя дамы, дамы для састарэлых і цэнтры для самотных маці. У найбліжэйшыя дні Папскі фонд намераны ўхваліць яшчэ адзін пакет дапамогі, які ахопіць сямнаццаць епархій Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы і сем дыяцэзій Каталіцкага Касцёла лацінскага абраду.

Разам з гэтымі ініцыятывамі Папскі фонд "Дапамога Касцёлу ў патрэбе" працягвае аказваць падтрымку святарам і кансэкраваным асобам, а таксама фінансаваць праекты неадкладнай дапамогі ва ўмовах пандэміі COVID-19. Фонд будзе працягваць збор ахвяраванняў, каб падтрымаць дабрачынную дзейнасць Касцёла ва Украіне на карысць насельніцтва, якое церпіць ад вайны.

## Спецпасланнік Пантыфіка пачаў місію ва Украіне

**У аўторак, 8 сакавіка, кардынал Конрад Краеўскі прыбыў ва Украіну са спецыяльнай місіяй. Мэта яго візіту – засведчыць асабістую блізкасць Папы да ўкраінскага народа.**



Архіепіскап Кіева-Галіцкі Святаслаў Шаўчук і арцыбіскуп Львоўскі Мечыслаў Макшыцкі сустрэліся з папскім пасланнікам адразу пасля яго прыбыцця ў Львоў. Элемазінарый падкрэсліў, што хацеў бы наведаць цэнтры сацыяльнай дапамогі, сустрэцца з уцекачамі і ахвярамі вайны.

Падчас нарады кардынал Краеўскі і абодва іерархі мелі магчымасць абмеркаваць сітуацыю непасрэдна з Папам Францішкам. Легат распавёў Святому Айцу пра свае першыя ўражанні і агучыў праграму візіту ва Украіну, папярэдне абмеркаваную з украінскімі пастырамі.

Варта адзначыць, што візіт, які Францішак папрасіў здзейсніць кардынала Краеўскага, павінен працягвацца столькі, колькі неабходна будзе падтрымліваць украінскі народ ад імя Святога Пасаду ў гэтыя драматычныя дні яго гісторыі. "Папа хоча прысутнічаць праз свайго асабістага пасланніка. І гэта мэта яго візіту", – патлумачыў кіраўнік Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Падрабязная праграма знаходжання папскага элемазінарыя ва Украіне пакуль не апублікавана, але вядома, што ў чацвер, 10 сакавіка, ён наведаў грэкакаталіцкія цэнтры сацыяльнай падтрымкі і прымаў удзел у сумеснай малітве з прадстаўнікамі Усеўкраінскай Рады Цэркваў і рэлігійных арганізацый.

У размове з Vatican News кардынал Краеўскі паведаміў, што, акрамя Львова, збіраецца паехаць у некалькі іншых дыяцэзій. Ён ужо размаўляў з пастырам Харкаўска-Запарожскай дыяцэзіі і ўдзяліў яму папскае бласлаўленне. "Калі змагу некуды паехаць, я буду там. Але ўсё залежыць ад абставін. Тут усё вельмі хутка змяняецца", – адзначыў іерарх.

Перад прыездам ва Украіну элемазінарый наведаў усе буйныя памежныя пераходы з польскага боку, дзе меў магчымасць сустрэцца і паразмаўляць з украінскімі ўцекачамі.

Прыбыць ва Украіну збіраецца і другі папскі пасланнік – кіраўнік Дыкастэрыі па служэнні інтэгральнаму развіццю чалавека кардынал Майкл Чэрны. Ён ужо знаходзіцца ў Венгрыі.

*Старонка падрыхтавана па матэрыялах беларускай рэдакцыі Vatican News*

# “Справядлівая вайна”?

## Папа Францішак: Касцёл больш не падтрымлівае гэтай ідэі

**Адным з асноўных і далёкасяжных пасланняў, якія змяшчаюцца ў трэцяй Энцыклікі Папы Францішка пад назвай “Fratelli tutti”, з'яўляецца адмова ад далейшага прыняцця Каталіцкім Касцёлам тэорыі “справядлівай вайны”. Аднак рысы таго, што Касцёл у сваім навучанні будзе пазбягаць гэтага, з'явіліся значна раней.**

Яшчэ менш чым дваццаць гадоў таму ад вядучых каталіцкіх навукоўцаў у галіне маральнай тэалогіі можна было пачуць, што вайсковую аперацыю ў Афганістане, распачатую ў кастрычніку 2001 года па ініцыятыве ЗША, можна аднесці да “справядлівых войнаў”. Дзеянні салдат сталі рэакцыяй на тэракты, якія адбыліся 11 верасня 2001 года ў некалькіх месцах ЗША. І менавіта барацьба з міжнародным тэрарызмам апраўдвала ваенныя дзеянні. Тлумачылася, што гэтыя дзеянні адпавядаюць указаным Касцёлам умовам “справядлівай вайны”.

**Умовы “справядлівай вайны”, змешчаныя ў Катэхізісе Каталіцкага Касцёла**

У Катэхізісе Каталіцкага Касцёла гаворыцца, што для апраўдання законнай абароны з дапамогай ваеннай сілы павінны быць выкананыя канкрэтныя ўмовы. Ён дадае, што сур'ёзнасць такога рашэння залежыць ад строгіх умоў маральнай легітымнасці. Катэхізіс пералічвае чатыры элементы, якія павінны мець месца адначасова і ў канкрэтным выпадку.

Згодна з першым элементам, шкода, нанесеная агрэсарам нацыі або супольнасці нацый, павінна быць доўгатэрміновай, сур'ёзнай і бясспрэчнай.

Згодна з другім, усе іншыя меры па яго спыненні аказаліся альбо нерэальнымі, альбо неэфектыўнымі.

Трэці элемент заключаецца ў тым, што для законнай абароны павінны існаваць сур'ёзныя ўмовы поспеху.

Чацвёрты падкрэслівае, што выкарыстанне зброі не пацягне за сабой больш сур'ёзнае зло і замяшанне, чым зло, якое трэба спыніць. “Магутнасць сучасных сродкаў знішчэння мае вялікую ролю пры рашэнні, ці існуе гэта апошняя акалічнасць”, – дадае Катэхізіс.

Пад гэтым спісам у Катэхізісе ёсць заўвага, якая гаворыць, што гэта элементы, каторыя традыцыйна згадваюцца ў тэорыі так званай “справядлівая вайна” (пар. ККК 2309).

**Ян Павел II не выкарыстоўваў тэрмін “справядлівая вайна”**

Прадстаўленую ў Катэхізісе Каталіцкага Касцёла тэорыю “справядлівай вайны” ўпершыню распрацаваў святы Аўгусцін (354 – 430), а пазней яе дапоўніў святы Тамаш Аквінскі (1225 – 1274). Гэта было вынікам неабходнасці сфармуляваць пазіцыю хрысціян да вайны супраць варвараў. Таксама ў Касцёле на працягу стагоддзяў на згаданую тэорыю спасылаліся для апраўдання розных ваенных дзеянняў.

Некаторыя тэолагі, якія лічылі ўзброены адказ на дзеянні ў Афганістане “справядлівымі”, адначасова прыпаміналі, што шмат гадоў таму, у жніўні 1990 г., Папа Ян Павел II перад пачаткам ваеннай аперацыі ў Іраку “Бура ў пустыні” быў катэгарычна супраць ваенных дзеянняў. Ён сцвярджаў, што “вайна будзе адмаўленнем гуманізму”. Папа быў перакананы, што вайна не з'яўляецца выйсцем з сітуацыі. Ён яшчэ раз пацвердзіў гэта ў 2003 годзе, калі з вялікай перакананасцю спрабаваў прадухіліць чарговы напад міжнародных сіл на Ірак. Паказальна, што Папа Ян Павел II ніколі не выкарыстоўваў тэрмін “справядлівая вайна” ў сваіх штогадовых пасланнях на Сусветны дзень малітваў аб міры, які ў Касцёле адзначаецца 1 студзеня. Магчыма, ён падзяляў пункт гледжання, выказаны айцом Яцэкам Саліем OP у кнізе “Неабыякавыя пытанні”, выдадзенай упершыню ў 1986 г. У ёй дамініканскі тэолаг падкрэсліў, што найвялікшым злом, якое вынікае з тэорыі так званай “справядлівай вайны”, з'яўляецца ўвядзенне сумлення ў дрымотны стан: ‘Людзі лічаць гэта бясспрэчным і не турбуюцца, разважаючы, што “справядлівая вайна” з'яўляецца дапушчальнай. Але не ўсё так проста’.

Галасы святога Яна Паўла II, тэолагаў і іншых прадстаўнікоў Касцёла не з'яўляецца адзінымі, якія кажуць, што пытанне справядлівай вайны не такое відавочнае, як здаецца. У 2010 годзе ватыканская газета “L'Osservatore Romano” прыгадала вытрымкі з прамовы кардынала Ёзэфа Ратцынгера – прэфекта Кангрэгацыі Веравучэння, які выступіў 4 чэрвеня 2004 года падчас святкавання 60-й гадавіны высадкі саюзнікаў у Нармандыі. Цікава, што фрагмент прамовы будучага Папы Бэнэдыкта XVI меў назву: “Саюзнікі і bellum iustum” [справядлівая вайна]. Кардынал Ратцынгер сказаў, што калі-небудзь у гісторыі і мелі дачыненне са справядлівай вайной, дык гэта якраз і было ў дзеяннях саюзнікаў, таму што іх умяшальніцтва мела на карысці дабро. Выкарыстанае ім слова “калі-небудзь” ясна паказвае, што ідэя “справядлівай вайны” на практыцы выклікае вялікія сумневы.

**Зварот да Францішка**

З цягам часу з'явіўся яшчэ адзін істотны сігнал, што ў Каталіцкім Касцёле паступова змяняецца падыход да тэмы вайны. З 11 па 13 красавіка 2016 года Папская рада Iustitia et Pax і каталіцкі мірны рух “Pax Christi International” арганізавалі ў Рыме канферэнцыю на тэму справядлівага міру і негвалтоўнай барацьбы, а таксама аб развіцці каталіцкай думкі ў гэтай справе. Яе ўдзельнікі ў заключным пасланні папрасілі Папу Францішка адмовіцца ад тэорыі “справядлівай вайны”. На іх думку, Касцёл павінен актыўна ўдзельнічаць у стварэнні і прасоўванні канцэпцыі “справядлівага міру”.

Падчас канферэнцыі кардынал Пітэр Турксан, старшыня Папскай рады Iustitia et Pax, адзначыў, што тэорыя “справядлівай вайны” занадта часта выкарыстоўваецца для легітымізацыі канфліктаў, каторыя прыносяць больш шкоды, чым карысці. На думку некаторых выступоўцаў, дыскусія над правамернасцю прымянення ваеннай сілы ў тым ці іншым канфлікце выклікае замяшанне і прыводзіць да сварак. Але перш за ўсё гэта марнаванне рэсурсаў і часу, якія з самага пачатку неабходна ўкладваць у формы актыўнага непрыняцця гвалту. На канферэнцыі таксама было адзначана, што тэорыя “справядлівай вайны”, на якую часта спасылаюцца бакі, каторыя ваююць, у многіх выпадках прыводзіць да невырашальнага канфлікту.

**Рашучае “не” Касцёла тэорыі “справядлівая вайна”**

Звязаныя з ваеннай тэматыкай вытрымкі з Энцыклікі Папы Францішка “Fratelli tutti” з'яўляюцца натуральным следствам развіцця пазіцыі Касцёла адносна вайны. Папа нагадаў, што ў Катэхізісе Каталіцкага Касцёла гаворыцца пра магчымасць законнай абароны з дапамогай узброенай сілы. Разам з тым ён падкрэсліў, што вельмі лёгка ўпасці ў занадта шырокае тлумачэнне падобнага магчымага права. Гэтым правам робіцца спроба апраўдаць “прафілактычныя” напады або ваенныя дзеянні, якія нясуць больш зла і замяшання, чым тыя, якім трэба супрацьстаяць. Папа Францішак таксама звярнуў увагу на тое, што пасля распрацоўкі ядзернай, хімічнай і біялагічнай зброі, а таксама з-за вялізных магчымасцяў, якія прадугледжваюцца новымі тэхналогіямі, вайна атрымала некантраляваную разбуральную моц, каторая б'е па шматлікіх нявінных мірных жыхарах. Паводле Папы, мы знаходзімся ў сітуацыі, у якой вельмі цяжка падтрымліваць рацыянальныя крытэрыі, выпрацаваныя ў папярэднія стагоддзі, каб казаць пра магчымасць “справядлівай вайны”. Папа Францішак напісаў проста: “Таксама св. Аўгусцін, які развіў тэорыю “справядлівай вайны”, каторую мы сёння больш не падтрымліваем, сказаў: “Найвялікшым гонарам з'яўляецца знішчэнне вайны словамі замест таго, каб забіваць людзей мячом, і трэба шукаць супакой і яго падтрыманне праз мір, а не праз вайну”.

*Апрацаваў і пераклаў паводле матэрыялаў pl.aleteia.org*
***кс. Аляксей Ляшко***

## Папа Францішак кананізуе праціўніка прапаганды і мучаніка за праўду



**15 мая 2022 года на плошчы святога Пятра ў Ватыкане Папа Францішак кананізуе дзесяць бласлаўлёных. Сярод іх айцец Ціт Брандсма – галандскі кармеліт, прафесар, пісьменнік і журналіст.**

19 студзеня 1942 года 60-гадовы Ціт Брандсма (свецкае імя якога – Ано Шурд) быў арыштаваны за крытыку нацызму і за намаганні, накіраваныя на захаванне антынацысцкай лініі ў галандскім каталіцкім друку. Праз некалькі месяцаў ён апынуўся ў канцэнтрацыйным лагеры Дахау, дзе падвяргаўся жорсткім прыніжэнням і быў прымушаны да цяжкіх працаў. 26 ліпеня 1942 года знясіленаму святару зрабілі смяротную ін'екцыю, а цела спалілі ў крэматорыі.

Генеральны прыёр ордэна кармелітаў айцец Міхал О'Ніл заўважыў, што навіна пра кананізацыю айца Ціта Брандсма была доўгачаканай і з'яўляецца знакам прызнання Касцёлам яго святасці і сведчання. “Асаблівае значэнне мае той факт, што гэта цэлебрацыя адбудзецца ў час, калі праўда і сумленнасць цяжка пакутуюць ад вялікіх канфліктаў, якія пагражаюць сённяшняму міру на зямлі”, – дадаў ён.

Як выкладчык і журналіст айцец Брандсма быў вельмі вядомай асобай у Галандыі. Ён не баяўся асуджаць нацысцкую філасофію падчас сваіх прамоваў і лекцый. Як касцельны асістэнт пры Саюзе каталіцкіх журналістаў ён ад імя біскупаў заклікаў каталіцкія СМІ не выдаваць нацысцкую прапаганду. Як старшыня Саюза каталіцкіх школ заахвочваў ігнараваць нацысцкі загад адносна выключэння яўрэйскіх дзяцей з навучальных устаноў. На гэты заклік у першую чаргу адгукнуліся кармеліцкія школы. Выказванні айца Ціта Брандсма былі добра вядомымі ў Галандыі, у тым ліку нацысцкім верхаводам, праз што святара называлі “маленькім небяспечным манахам”.

Пасля яго смерці многія сведкі распавядалі, што ў самыя цёмныя моманты, будучы вязнем у канцлагеры, айцец Брандсма быў знакам надзеі для людзей розных веравызнанняў.

Працэс беатыфікацыі айца Ціта Брандсма распачаўся ў 1952 годзе і стаў першым працэсам, які датычыўся мучаніка нацыянал-сацыялізму. З лістапада 1985 года Ян Павел II абвясціў галандскага кармеліта бласлаўлёным. У лістападзе 2021 годзе быў прызнаны цуд аздараўлення ад анкалагічнага захворвання, які адбыўся праз заступніцтва айца Ціта, а падчас Звычайнага публічнага кансісторыя 4 сакавіка 2022 года было прынятае рашэнне пра яго кананізацыю.

Імем Ціта Брандсма названа найвышэйшая прэмія Міжнароднага саюза журналістаў-католікаў, якая з 1988 года ўручаецца раз на тры гады.

*Аляксандр Панчанка, Vatican News*

# Пазіцыя каталіцкага духавенства на тэрыторыі Беларусі падчас

**Гістарычныя артыкулы ў мінулых нумарах "Каталіцкага весніка" знаёмілі чытачоў з пісьмовымі і візуальнымі крыніцамі. У новым нумары хочам заахвоціць вас самастойна знаёміцца таксама і з навуковай літаратурай, прысвечанай гісторыі канфесій у Беларусі.**

■ Раіса Зянюк

У 2015 годзе ў выдавецтве "Беларуская навука" была выдадзена калектыўная манаграфія **"Канфесійны фактар у сацыяльным развіцці Беларусі (канец XVIII – пачатак XX ст.)"**. Аўтары манаграфіі – калектыў прафесійных гісторыкаў: Н.В. Анофранка, С.М. Васовіч, Р.У. Зянюк, С.В. Марозава, А.Э. Сакольчык, А.М. Філатава, В.В. Яноўская. Навуковую рэдакцыю тэксту ажыццявіла В.В. Яноўская.

У манаграфіі асвятляюцца разнастайныя аспекты канфесійнага жыцця беларускіх зямель: пытанні ўключэння праваслаўнай і рыма-каталіцкай цэркваў у прававую сістэму Расійскай імперыі, эвалюцыя імперскай палітыкі ў адносінах да ўніяцкай царквы, даследуецца адукацыйная дзейнасць розных канфесій, а таксама ўдзел цэркваў у дабрачыннасці і выдавецкай справе. Манаграфія складаецца з пяці раздзелаў. Першы прысвечаны агляду гістарыяграфіі і крыніц, другі мае назву "Шляхі адаптацыі хрысціянскіх і нехрысціянскіх канфесій у прававой структуры Расійскай імперыі", трэці – "Канфесійны фактар у перыяд сацыяльных узрушэнняў і глабальных геапалітычных канфліктаў", чацвёрты – "Канфесіі і фарміраванне новай сацыякультурнай прасторы. Праблема захавання традыцыйных духоўных каштоўнасцей".

Хацелася б прапанаваць чытачам **вытрымкі з трэцяга раздзела** гэтай манаграфіі (з першага параграфа – "Пазіцыя духавенства падчас вайны 1812 г." (старонкі 216-228 манаграфіі) і з другога параграфа – "Духавенства ў паўстанні 1830-1831 гг." (старонкі 228-241 манаграфіі). Аўтарам першага параграфа гэтага раздзела з'яўляецца А.М. Філатава, а другога параграфа – Н.В. Анофранка.

Што датычыць **пазіцыі духавенства падчас вайны 1812 года,** А.М. Філатава адзначае, што ў асяродку каталіцкага духавенства адзінства не было. У пачатку вайны 1812 г. Мітрапаліт рыма-каталіцкай царквы у Расійскай імперыі С. Богуш-Сестранцэвіч у лісце да кіраўніка Галоўнага Упраўлення духоўных спраў розных веравызнанняў князя А. Галіцына выказаўся наконт падначаленага яму духавенства такім чынам: «принять за них на себя полную ответственность я не могу». Гэта было праўдай, паколькі

> "...частка каталіцкага і ўніяцкага духавенства падтрымала Напалеона."

Сярод тых, хто аказаўся на баку французаў, былі прадстаўнікі вышэйшага каталіцкага духавенства: Мінскі біскуп Я. Дэдэрка, Віленскі прэлат М. Длускі; Самагіцкі біскуп-каад'ютар Ю. Гедройц, Курляндскі суфраган І. Касакоўскі, уніяцкія біскупы – А. Галаўня, І. Булгак і іншыя. Найбольш зангажаваным у патрыятычнай дзейнасці з каталіцкіх біскупаў стаў Мінскі каталіцкі біскуп Я. Дэдэрка, які прыняў удзел у падпісанні акта мінскіх абывацелей у Глыбокім. Ён прынёс прысягу на вернасць Напалеону ў Глыбокім, далучыўся да Мінскай канфедэрацыі, якую абвясціў у кафедральным касцёле 19 ліпеня 1812 г. Віленскі прэлат М. Длускі ў сваіх казаннях падтрымліваў Напалеона.

> "Непрыхільнымі да Напалеона былі езуіты."

На думку А.М. Філатавай, прычынай такога стаўлення было тое, што ўсе езуіцкія калегіі былі занятыя французамі пад вайсковыя шпіталі і казармы, нанесеная шкода асобным кляштарам і касцёлам.

Як сам Напалеон, так і яго генералы па меры захопу тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў абавязкова прысутнічалі на набажэнствах у каталіцкіх і ўніяцкіх касцёлах, сустракаліся і размаўлялі з прадстаўнікамі духавенства. Так, у сувязі з прыездам Напалеона ў Вільню Віленскі біскуп-суфраган Т. Кундзіч у капліцы пры палацы адслужыў Імшу ў прысутнасці французскага імператара, які падарыў яму пярсцёнак і ахвяраваў касцёлу 300 напалеандораў. Аглядаючы горад, Напалеон доўгі час размаўляў з ксяндзом-піярам Глагоўскім, які суправаджаў яго па горадзе. Касцёлы і кляштары Вільні выкарыстоўваліся для шпіталяў. Пры адступленні французскага войска гэтыя памяшканні былі перапоўненыя параненымі.

На шляху да Масквы Напалеон на шэсць дзён затрымаўся ў Глыбокім у кармеліцкім кляштары, дзе размяшчаў з яго настаяцелем Пасецкім. Імператар цікавіўся шляхамі зносін, рэкамі і наколькі далёка знаходзіцца Масква. 8 ліпеня войскі французскага маршала Даву занялі Мінск. Па паведамленні іераманаха Логіна, французы вялі сябе не як ворагі, а як саюзнікі: нічога не рабавалі і «никаких следов не было открыто впоследствии, чтобы французы были участниками произведенных в крае разорений», акрамя натуральнага спусташэння пры прыходзе вялікага войска. Нават фураж французы не збіралі самі, а патрабавалі яго ад «польскага ўрада».

На баку французаў ваявалі прадстаўнікі і іншых хрысціянскіх канфесій: каталіцкага, уніяцкага, праваслаўнага. У жніўні 1812 г. сын уніяцкага святара в. Цялядавічы Слуцкага павета А. Наркевіч уступіў у 22-гі Мінскі пяхотны полк пад камандаваннем палкоўніка С. Чапскага. Пасля вызвалення тэрыторыі ён вярнуўся да навучання ў школе пры Жыровіцкім базыльянскім кляштары. Дзячок пукаўскай Георгіеўскай праваслаўнай царквы Ігуменскага павета Мінскай губерні І. Мітроўскі таксама ўступіў у французскае войска. На баку Напалеона змагалася і частка татар-мусульман, якія знаходзіліся ў татарскім палку. Адзін з іх стваральнікаў – С. Улан, – застаючыся афіцэрам, выконваў і абавязкі мулы.

Акрамя ўскладзеных абавязковых кантрыбуцый духавенства рабіла ахвяраванні на карысць французскай арміі. Так, 19 жніўня «Tymczasowa gazeta Mińska» паведамляла, што мінскі каталіцкі біскуп Я. Дэдэрка ахвяраваў на карысць вайсковага шпіталя ў Мінску 200 гарнцаў гарэлкі, а 8 лістапада пісала, што ксяндзы-місіянеры са Свіслачы далі тры бочкі жытняй мукі і дзве бараны.

15 жніўня Мінск адзначаў дзень імянін Напалеона, пра што паведаміла «Tymczasowa gazeta Mińska» у №10 ад 19 жніўня 1812 г. А сёмай гадзіне раніцы зазванілі званы ўсіх касцёлаў горада і пачаліся малебны. Духавенства кляштараў справіла малебны за доўгі век і шчаслівае панаванне «найсвятлейшага цэзара і караля». А 10-й гадзіне французскі губернатар М. Бранікоўскі ўчыніў агляд мясцовага гарнізона, а затым разам з іншымі прадстаўнікамі гарадской улады пайшоў на Імшу, якую справіў Мінскі каталіцкі біскуп Я. Дэдэрка. Паводле ўказа Напалеона і загада Я. Дэдэркі ва ўсіх касцёлах Мінскай каталіцкай дыяцэзіі адбываліся ўрачыстыя набажэнствы ў гонар французскіх перамог і захопу Масквы.

А.М. Філатава робіць выснову, што ў час вайны 1812 г. духавенства ўсіх канфесій, як і іншыя саслоўі, аказалася расколатым на некалькі частак:

а) на баку Расійскай імперыі, акрамя праваслаўных, выступалі ўніяты Полацкай ўніяцкай епархіі, чальцы езуіцкага каталіцкага ордэна, стараверы, хасіды;

б) нязначная часта каталіцкага і ўніяцкага духавенства падтрымала Напалеона;

в) праваслаўнае духавенства, якое па розных абставінах не паспела эвакуявацца, апынулася ў даволі складаным становішчы і вымушана было прыносіць прысягу на вернасць Напалеону;

г) частка духавенства імкнулася застацца ў баку ад вайны, што не заўсёды было магчыма. Ваеннае духавенства варожых бакоў, разам з арміямі, прымала ўдзел у баях. Пасля вызвалення акупаванай тэрыторыі, нягледзячы на маніфест Аляксандра І аб памілаванні, у першую чаргу ўлады імкнуліся пакараць прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства, бо яны разглядаліся як здраднікі, у адрозненне ад каталіцкага і ўніяцкага, якія былі прадстаўнікамі замежных веравызнанняў.



Графіня Эмілія Плятэр, беларуская Жанна д'Арк, удзельніца паўстання 1830-1831гг. Вырасла ў маёнтку Ліксна Дынабургскага павета Беларуска-Віцебскай губерні, дзе цікавілася і збірала фальклор. Падчас паўстання ў Польшчы, Беларусі і Літве ўзначаліла невялікі паўстанцкі атрад, удзельнічала ў некалькіх баях, атрымала званне капітана ў паўстанцкіх войсках.

Пазіцыю духавенства (у тым ліку каталіцкага) падчас паўстання 1830-1831 гг. асвятліла ў другім параграфе трэцяга раздзела Н.В. Анофранка. Даследчыца кажа, што, як бачна з даносаў, святары ў большасці выпадкаў абвінавачваліся ў антыімперскай прапагандзе, якая быццам адбывалася ў час набажэнстваў ці ў публічных месцах. Аднак матэрыялы Мінскай следчай камісіі (не называючы крыніцы даносаў) даюць больш шырокі спектр абвінавачванняў. Іераманах Глускага бернардзінскага манастыра Б. Баратынскі абвінавачваўся ў распаўсюджванні чутак. Манахі Бярэзінскага бернардзінскага манастыра абвінавачваліся ў намеры далучыцца да мяцежнікаў і маліліся за палякаў. Уніяцкі святар І. Марціноўскі абвінавачваўся ў агалашэнні паўстанцкіх актаў. Прыходскі ўніяцкі святар вёскі Парпліца І. Камінскі і ўніяцкі святар прыходскай царквы вёскі Сікота М. Лясneўскі былі абвінавачаны ў тым, што, абяцаючы вольнасць, угаворвалі людзей збіраць косы і іншую зброю і рыхтавацца да ўдзелу ў паўстанні. Іераманах Браслаўскага базыльянскага манастыра В. Кучынскі абвінавачваўся ў тым, што хаваў у сябе ад пераследу расійскіх войск памешчыка Кудоміна, які «отдал в мятеж двух своих сыновей и трех крестьян». Уніяцкі святар Турчыновіч быў абвінавачаны ў тым, што сустракаў мяцежнікаў у святарскім строі. Прыёр даміниканскага манастыра Скіндэр абвінавачваўся ў тым, што быў святаром у атрадзе вілейскіх мяцежнікаў. У ходзе следства ўсе гэтыя святары былі прызнаныя невінаватымі. У спісах Віленскай следчай камісіі таксама прысутнічалі прадстаўнікі каталіцкага святарства, якія ў выніку тайнай праверкі або афіцыйнага следства былі прызнаныя недатычнымі да паўстання.

На актыўнасць каталіцкіх і ўніяцкіх святароў у паўстанні аказвалі ўплыў розныя фактары. Па падліках В. Гарбачовай, у беларуска-літоўскіх губернях у паўстанні ўзялі ўдзел католікаў – 101 чал., уніятаў – 18 чал. У Гродзенскай губерні да следства былі прыцягнуты 33 каталіцкія святары. У Мінскай губерні да следства прыцягнулі прадстаўнікоў каталіцкай царквы – 35 чал., уніятаў – 5 чал. У Віленскай губерні было выяўлена 37 прадстаўнікоў духавенства – 33 католікі і 4 уніяты. На тэрыторыі Віцебскай і Магілёўскай губерняў, зыходзячы з дадзеных В. Гарбачовай, святары да следства не прыцягваліся.

Формы ўдзелу ⇒

# войнаў і грамадска-палітычных узрушэнняў першай паловы XIX ст.

⇐ святароў у паўстанні былі наступныя: пасіўныя (адмаўленне выконваць распараджэнні вышэйшага духоўнага і свецкага кіраўніцтва), агітацыйна-прапагандысцкія (абвяшчэнне паўстанцкіх дакументаў у парафіях і агучванне распараджэнняў паўстанцкіх улад), наладжванне сувязей і дапамога паўстанцам, а таксама непасрэдны ўдзел у паўстанцкіх органах ці ў якасці капеланаў і правадыроў узброеных атрадаў. Гэтыя формы частка камбінаваліся. Былі выпадкі, калі агітацыя спалучалася з іншымі дзеяннямі. Так, завілейскі каталіцкі святар К. Каверскі чытаў з амбоны паўстанцкія пракламацыі, а таксама на загад паўстанцаў даў са свайго маёнтка восем кантаністаў. У Глыбокім святары не толькі агітавалі за паўстанне, але і вучылі сялян карыстацца рознай зброяй «для присоединения их к толпе мятежников».

Дастаткова распаўсюджанай формай удзелу святароў у паўстанні было прывядзенне да прысягі на адданасць паўстанцкаму ўраду. Напрыклад, Ф. Жалязоўскі і Ф. Плюцынскі, уніяцкія святары з Пружанскага і Ваўкавыскага паветаў, неаднаразова наведвалі паўстанцаў у Белавежскай пушчы і прыводзілі іх да прысягі.

Распаўсюджанай формай была матэрыяльная падтрымка паўстанцаў. Некаторыя святары аказвалі паўстанцам дапамогу ў выглядзе грашовых ахвяраванняў, збіралі зброю, харчаванне, амуніцыю. Таксама святары перадавалі паўстанцам інфармацыю. Напрыклад, манах магілёўскага бернардзінскага манастыра Дробыш абвінавачваўся не толькі ў антыўрадавай агітацыі сярод насельніцтва, але і ў шпіянажы на карысць паўстанцаў.

Да актыўных формаў удзелу святароў у паўстанні належыць іх знаходжанне ў паўстанцкіх атрадах. У першую чаргу, святары знаходзіліся там у якасці капеланаў. Пакаранне за такую дзейнасць было дастаткова суровае. Напрыклад, уніяцкі святар Дзісненскага павета І. Яленскі ў паўстанцкім атрадзе спавядаў паўстанцаў, а таксама займаўся іншымі царкоўнымі абрадамі. За гэта быў не толькі пазбаўлены царкоўнага сану, але і высланы на пасяленне ў Сібір.

Знаходзячыся ў паўстанцкіх атрадах, святары акрамя выканання духоўных функцый, удзельнічалі ва ўзброенай барацьбе. Разам з тым можна вылучыць толькі адзінкавыя выпадкі, калі прадстаўнікі каталіцкага духавенства не толькі падтрымалі паўстанне ці выконвалі распараджэнне паўстанцкіх уладаў, але і бралі ўдзел у арганізацыйнай дзейнасці. Так, вікарый радашковіцкага касцёла Ш. Вайткевіч быў кіраўніком выступлення ў мястэчку Радашковічы, раздаваў народу зброю, заклікаючы ўсіх да паўстання. Па звестках Мінскай следчай камісіі, з пачаткам паўстання ён імкнуўся распаўсюдзіць яго і на Вілейскі павет. Самі ж дзеянні вікарыя насілі гвалтоўны характар. Так, ён напаў на паштовую станцыю, захапіў у палон паліцмайстра Галіеўскага і пад прымусам адвёз яго ў Вілейку, куды даставіў і двух яго сыноў. Там жа гвалтоўна запісаў іх у паўстанцкі атрад. У Радашковічах дзейнічаў і Ш. Паразінскі, прэлат рымакаталіцкага касцёла. Ён даў прысягу паўстанцам, прывёў да прысягі жыхароў і ўзначаліў у Радашковічах «мятежные действия».

У Завілейскім павеце адным з першых зачыншчыкаў паўстання быў настаяцель Мыхтунскага каталіцкага прыхода В. Завадскі. Ён быў чальцом створанага паўстанцамі Завілейскага ўрадавага камітэта, дзе ўзначальваў паліцэйскую і распарадчую часткі.

Актыўную пазіцыю ў адносінах да паўстання заняў таксама канонік К. Тадайскі, які за актыўную агітацыю супраць імператара і расійскага ўрада быў пакараны зняволеннем у крэпасці. Святар піярскага манастыра ў Лужках А. Татур актыўна працаваў у камітэце канфедэрацыі, выконваючы абавязкі сакратара па грамадзянскай частцы. Пасля задушэння паўстання А. Татур прызнаўся ў сваёй актыўнай паўстанцкай дзейнасці перад магілёўскім грамадзянскі губернатарам М. Мураўёвым. Быў залічаны нараўне «с предводителями и зачинщиками мятежа» да першага разраду дзяржаўных злачынцаў і павінен быў быць расстраляны. Аднак праз тое, што добраахвотна з'явіўся з пакаяннем, яму было дадзена імператарскае дараванне.

Аналіз дакументаў Мінскай следчай камісіі паказаў, што дзеянні з боку святароў на карысць паўстанцаў не заўсёды насілі свядомы і добраахвотны характар, часам яны былі прадыктаваныя ваенна-палітычнымі абставінамі. Так, манах маладзечанскага трынітарскага манастыра на загад паўстанцаў прыводзіў народ да прысягі. Мінская следчая камісія гэтыя дзеянні прызнала вымушанымі і не залічыла манаха ў разрад дзяржаўных злачынцаў. Парафіяльны святар даўгінаўскай каталіцкай царквы Ф. Леліговіч па патрабаванні паўстанцаў са свайго фундушавага маёнтка паставіў сем кантаністаў, загадаў выразаць дзіды для іх сем пік і тры пары ботаў. Свайму брату, вікарыю таго ж касцёла, загадаў прывесці народ да прысягі на вернасць паўстанцам. Следчая камісія вырашыла, што дзеянні братоў былі абумоўлены прымусам з боку паўстанцаў і вызваліла іх ад следства.

У дакументах Віленскай следчай камісіі таксама прысутнічаюць падобныя факты. Так, ксёндз Свянцянскага павета Жырневіч быў прымушаны паўстанцамі да супрацоўніцтва, ксёндз Шавельскага павета Пётр Качарэўскі пад ціскам паўстанцаў чытаў у касцёле «мятежные бумаги». Ксёндз Цяльшэўскага павета Іосіф Кукевіч абвінавачваўся ў тым, што збіраў грошы «в пользу метяжа», прыводзіў народ да незаконнай прысягі і разам з паўстанцамі «отлучался в разные места из своего прихода». Іосіф Кукевіч патлумачыў, што ўсё гэта ён рабіў на загад «главных бунтовщиков» і атрымаў імператарскае памілаванне.

Па сведчанні архіўных дакументаў, больш актыўны ўдзел у паўстанні каталіцкае і ўніяцкае святарства брала на тэрыторыі, занятай паўстанцамі. Пры гэтым найбольш актыўнымі былі манахі розных каталіцкіх манастыроў. Адзначалася актыўнасць манахаў піярскага манастыра ў Лужках. Кіраўнік манастыра В. Гусціневіч абвінавачваўся ў тым, што падпісаў прысягу паўстанцаў і аддаў ім зброю, а таксама што манахі яго манастыра далучыліся да паўстанцаў. Святар І. Адамовіч быў абвінавачаны ў арганізацыі паўстанцаў і іх узбраенні ў маёнтку памешчыка П. Вазгурда, а таксама ў тым, што сустракаў паўстанцаў з крыжам у святарскім строі і прамаўляў «возмутительную речь». Аднак следчай камісіяй віна В. Гусціневіча і І. Адамовіча была прызнана нязначнай і абвінавачванні знялі. У адрозненні ад іх манах С. Заленскі за тое, што далучыўся да паўстанцаў і ў паўстанцкім атрадзе выконваў функцыі святара, следчай камісіяй быў залічаны ў 2-гі разрад дзяржаўных злачынцаў, пазбаўлены сану і высланы ў Сібір.

Праявілі актыўнасць манахі глыбоцкага кармеліцкага манастыра. Прыёр манастыра У. Казакевіч абвінавачваўся ў тым, што быў капеланам у паўстанцкім атрадзе і ў захаванні боепрыпасаў. Аднак у час следства ўстанавілі, што Казакевіч толькі выканаў загад паўстанцкага камітэта і аддаў з манастырскага маёнтка кантаністаў у паўстанцкі атрад. Па нязначнасці віны ён быў вызвалены ад следства. Два інакі – М. Гурскі і К. Корсак – уступілі ў паўстанцкі атрад і ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях. Манах Н. Валынскі не толькі прысягнуў паўстанцам, але і даваў парады адносна пастаноў канфедэрацыі. Ён таксама браў удзел у баявых дзеяннях.

Адзначалася актыўнасць манахаў манастыра ў Бярозе. Адзін з картузаў, Геній, з кіраванага ім манастырскага маёнтка выдзеліў у атрад Ц. Пуслоўскага дзесяць узброеных людзей, восем коней і грашовую суму. Манах Ф. Камінскі добраахвотна далучыўся да атрада Ц. Пуслоўскага, браў удзел у баявых дзеяннях і быў паранены. Дакументы адзначаюць актыўнасць манахаў лідскага піярскага і кармеліцкага манастыроў, навагрудскага дамініканскага манастыра, а таксама дзярэчынскага дамініканскага манастыра.

Паказальным з'яўляецца тое, што, нягледзячы на абмежавальныя меры з боку расійскага ўрада ў адносінах да каталіцкага і ўніяцкага духавенства, якія былі ўведзеныя на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў вясной 1831 г., частка святароў усё ж удзельнічала ў паўстанні. Таму для выяўлення нядобранадзейных святароў і манахаў, а таксама непасрэдных удзельнікаў у канцы 1831 г. забарона на перамяшчэнне манахаў па беларуска-літоўскіх губернях была ўзмоцненая. Духоўнаму начальству прадпісвалася, каб без крайняй патрэбы ніхто з манахаў нікуды не адлучаўся. У выпадку неабходнасці той, хто адпраўляўся ў іншы павет, павінен быў мець дазвол епархіяльнага начальства і дакумент на праезд ад грамадзянскай адміністрацыі. Той жа, хто з манастыра адлучаўся ў межах свайго павета, павінен быў мець пісьмовы дазвол ад дэкана. У сувязі з дзейнасцю следчых камісій па зборы звестак пра паводзіны святарства ў час паўстання са жніўня 1832 г., перамяшчэнне асоб духоўнага звання з манастыра ў манастыр дазвалялася толькі па распараджэнні рыма-каталіцкай кансісторыі. Грамадзянскім губернатарам было загадана спыніць выдачу «білетаў» на перамяшчэнне манахаў з аднаго манастыра ў іншы па ўсіх губернях.

Н.В. Анофранка робіць выснову, што актыўнасць духавенства і вернікаў розных канфесій у паўстанні была неаднолькавай. Найбольшую актыўнасць праявіла каталіцкае і ўніяцкае духавенства. Прадстаўнікі гэтых канфесій дастаткова часта сустракаюцца ў дакументах расійскай адміністрацыі і ў спісах следчых камісій. Гэта было звязана не толькі з іх свядомым удзелам у антыўрадавых выступленнях, але і з вымушаным характарам супрацоўніцтва з паўстанцамі, а таксама з павышанай падазронасцю да гэтай катэгорыі з боку расійскага ўрада. Пратэстанцкае духавенства, мусульманскае і яўрэйскае індыферэнтна паставіліся да паўстання, што было абумоўлена іх адасобленым ладам жыцця і неўмяшаннем расійскага ўрада ў рэлігійнае жыццё гэтых груп. Праўрадавай пазіцыі прытрымлівалася значная частка праваслаўнага святарства і стараверы. Пры гэтым стараверы занялі актыўную антыпаўстанцкую пазіцыю, удзельнічаючы ў мерапрыемствах, накіраваных супраць паўстанцаў.

**Запрашаем пазнаёміцца з поўным тэкстам манаграфіі:** ***Канфесійны фактар у сацыяльным развіцці Беларусі (канец XVIII – пачатак XX стст.) / В.В. Яноўская [і інш.]. Навук. рэд. В.В. Яноўская. – Мінск : Беларуская навука, 2015 – 496 с.***



Вокладка манаграфіі

# Ці моліцца Касцёл аб пакаранні для грэшнікаў?

**"Хвала Хрысту! Чаму Касцёл цяпер моліцца аб "справядлівым Божым пакаранні" для тых, хто распачаў вайну, або для ворагаў Касцёла? На працягу гісторыі Касцёла было гэтулькі мучанікаў, усе яны маліліся аб прабачэнні для сваіх катаў, аб іх навяртанні. Наш Пан Езус Хрыстус моліцца на крыжы аб прабачэнні для тых, хто Яго прыбівае. У Новым Запавеце я не сустракала малітвы аб пакаранні. Чаму ў нашым касцёле пробашч падчас Эўхарыстыі моліцца аб пакаранні? Мне гэта дзіўна чуць, нават непрыемна. Можа, я чагосьці не разумею?"** ***Сястра Ірына***

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі, доктар тэалогіі:**

— Адказваючы на Вашае пытанне, прапаную пазнаёміцца з такім феноменам Біблii, як наяўнасць у ёй т.зв. "псальмаў-праклёнаў" (ці "праклённыя" псальмы). Адразу хочацца нагадаць, што Касцёл прызнае Стары Запавет (дзе размешчаны дадзеныя псальмы) як інтэгральную частку Бібліі, а "Усякае Пісанне натхнёна Богам і карысна для навучання, для пераконвання, для настаўлення, для выхавання ў праведнасці" (2 Цім 3,16). Варта зазначыць, што сапраўды існуюць адрозненні паміж біблейскай "Кнігай псальмаў" і Псалтыром у Літургіі гадзінаў (тэкстам малітвы Касцёла). Прычына гэтаму – "псальмы-праклёны". Гэта тыя псальмы або тыя іх фрагменты, у якіх аўтар скардзіцца на несправядлівасць, каторая напаткала яго, што патрабуе ад Бога жорсткай помсты за крыўды сваім ганіцелям. У брэвіярыі Псалтыр быў скарочаны, таму што Божы народ мог бы няправільна маліцца, праклінаючы бліжняга.

> **"Праклённыя" псальмы зніклі з афіцыйнай малітвы Касцёла толькі пасля Другога Ватыканскага Сабору,"**

калі рэфармаваны брэвіярый з яго перакладам на нацыянальныя мовы стаў даступны для ўсіх вернікаў. Раней яго чыталі на лацінскай мове толькі святары і манахі, рэдка некаторыя адукаваныя свецкія людзі. І гэтыя чытачы як рэлігійна сфармаваныя людзі ведалі, як разумець канкрэтныя ўрыўкі псальмаў, нават складаных, на першы погляд. Пазней было вырашана, што Божы народ, молячыся Псалтыром на сваёй мове, можа не справіцца з "праклёнымі" псальмамі і таму не павінен маліцца гэтымі словамі, бо яны чужыя сучаснаму менталітэту.

Каб не пакрыўдзіць вушы набожных вернікаў брутальнымі апісаннямі, з брэвіярыя выдалены ўвесь псальм 58, а таксама 83 і 109. У некаторых псальмах (што сумленна сказана ў іх загалоўках) пэўныя вершы таксама прапушчаныя, і таму, напрыклад, псальм 110 у Божым афіцыі заканчваецца словамі: "Пан праваруч Цябе. Ён у дзень гневу Свайго пакарае каралёў" (Пс 110,5). Але ў Біблii ў гэтым псальме ёсць яшчэ два вершы: "... учыніць суд над народамі, напоўніць зямлю трупамі, раструшчыць галаву ў зямлі шырокай. З патока на дарозе будзе піць, і таму падыме галаву" (Пс 110, 6-7). Відавочна, Айцы Сабору прыйшлі да высновы, што не для ўсіх прымальным будзе тое, каб у малітве народа Божага былі такія моцныя словы. Зрэшты сучасны менталітэт таксама больш не разумее ні распяцця, ні значэнняў таікс слоў, як збаўленне, адкупленне або пасхальная таямніца. Таксама варта адзначыць, што, на жаль, неаднойчы гэтыя і падобныя ўрыўкі са Старога Запавету служылі апраўданнем зверстваў і згвалтаванняў. Магчыма, ёсць яшчэ шмат прыкладаў няправільнага выкарыстання гэтых тэкстаў, але ці гэта дастатковая падстава, каб адмаўляцца ад іх у малітве?

Прысутнасць гэтых "праклённых" псальмоў у Бібліі змушае да ўказання станоўчых бакоў такога кшталту боганатхнёных тэкстаў. Напачатку можна параўнаць іх з манетай. З аднаго боку, карціна жахлівая, але давайце паглядзім на гэта з іншага боку. Па-першае,

> **"у згаданых псальмах мы не молімся ад уласнага імя, але становімся голасам тых, хто не можа маліцца."**

Сёння ёсць людзі, якія адчуваюць тое ж самае, што апісваецца ў псальме. Іх знішчаюць іншыя, іх дзяцей забіваюць. Калі яны могуць толькі пакутаваць, мы становімся іх голасам. Справа ў тым, што ў свеце ніколі не будзе ўсё добра. Таму мы просім у Бога справядлівасці. Па-другое, мы звяртаемся з гэтай малітвай толькі да Бога. Тыя, каго мы праклінаем, не могуць пачуць нашай нянавісці. Гэта не ідэал Новага Запавету, але спосаб вырашэння праблемы, калі чалавека адольвае нянавісць. Як не ідэальна тое, калі знерваваны гаспадар ідзе ў хлеў і праклінае карову. Але гэта заўсёды лепш, чым вылівацца ўвесь назбіраны негатыў на жонку ці дзяцей. Па-трэцяе, нават св. Тамаш Аквінскі дазваляе камусьці жадаць зла, каб атрымаць большае дабро. Гэта так, як мы часам кажам: ах, каб ты лепей зваліўся ў канаву, чым дабраўся да той жанчыны, з якой здраджваеш жонцы!

Пан Езус запаведаў нам любіць нават сваіх ворагаў, а ў псальмах, якія мы маем, сярод іншага ёсць такія "кветкі": "Няхай яго сыны будуць сіротамі, а жонка хай будзе ўдавой. Няхай яго дзеці блукаюць і жабруюць і просяць хлеб сярод развалінаў сваіх! Няхай ліхвяр захопіць усю тваю маёмасць, і хай чужынцы нішчаць плён яго працы! Хай ніхто не выказвае яму дабрыні, няхай ніхто не пашкадуе дзяцей тваіх! Няхай прападзе ягонае патомства; хай загіне імя іхняе ў другім калене! Няхай Пан успомніць віну бацькоў тваіх, няхай не будзе ачышчаны грэх маці яго" (Пс 109,9-14). Наступная малітва, магчыма, з'яўляецца кульмінацыяй "праклённых" псальмаў: "Шчаслівы той, хто адплаціць табе за зло, якое ты ўчыніў мне! Шчаслівы той, хто схоплівае і разбівае дзяцей вашых аб скалу" (Пс 137,8).

Зусім інакш мы падыдзем да гэтых псальмаў, калі ўбачым, што можна іх прымяніць да жудаснага стану граху, які запаланіў чалавека (і мяне ў тым ліку), і што грэшнік павінен укрыжаваць гэты грэх у сабе, каб "апрануцца ў новага чалавека, створанага паводле Бога, у праведнасці і сапраўднай святасці" (Эф 4,24; гл. Рым. 6,3-14; Гал 6,8). Тады праклёны цудоўным чынам адпавядаюць духу Евангелля і прынцыпу ўсеагульнай любові. Атрымліваецца, што згодна з духам Бібліі нам дазволена, і нават да гэтага заахвочваецца чытач, каб "праклінаць" нашых пераследнікаў і ворагаў (як знешніх, так і ўнутраных), бо гэта малітва супраць зла. Нанесеная шкода – з Божай дапамогай – можа ў канчатковым выніку прынесці нам карысць. Такая малітва будзе супраць грахоў, але не супраць збаўлення.

У "праклённых" псальмах св. Аўгусцін знаходзіць яшчэ адзін аспект, нагадваючы, што неразумна чакаць, быццам Бог перастане быць справядлівым. Сапраўды, псальміст "прарочыць", што чакае бязбожных, і гаворыць так, быццам жадае, каб так адбылося. Гэта пытанне датычыць будучыні, якая "пакаштуе" Божую справядлівасць.

У той жа час ніколі не бывае так, каб Бог адплачваў злом за зло: Бог карае не для таго, каб "задаволіцца" чужым няшчасцем, а таму, што любіць справядлівасць. Справядлівасць не ад чалавека, а ад Бога – гэта адказ дабром на зло.

У псальмах ёсць малітвы, згодна з якімі сам Бог хацеў бы змагацца з нашымі ворагамі: "Устань, Пане, супраць тых, што ваююць супраць мяне, нападзі на маіх непрыяцеляў! Вазьмі зброю і шчыт і выруш мне на дапамогу!" (Пс 35,1). Падобным чынам Пан Езус паўстаў супраць ганіцеля Касцёла – Саула (Дз 9,4), ператварыўшы яго ў апостала Паўла.

Айцы Касцёла разумелі складаныя псальмы ў метафарычным сэнсе. Яны бачылі ў ворагу дэманаў, злых духаў, сатану. Напрыклад, у Пс 137 Арыген бачыў Вавілон як апакаліптычную блудніцу або нячыстасць; дзеці Вавілона – нячыстыя думкі (учынкі – дарослыя). Скала – гэта Хрыстос. Так што малітва "Дачка Вавілона (...) Шчаслівы той, хто схоплівае і разбівае дзяцей вашых аб скалу" – гэта малітва, каб нячыстыя думкі былі забітыя сустрэчай з Хрыстом, тады яны не перарастуць у яшчэ больш згубныя ўчынкі. Жаданне зла захопніку матывавана рэлігійна: вавіланяне разбурылі храм, скралі Каўчэг Запавету і зняволілі вязняў у паганскім горадзе. А перашкода праслаўляць Бога і складаць Яму культ – гэта, бясспрэчна, зло. Падобна св. Аўгусцін заклікае накладваць праклёны не на грэшніка, які заўсёды мае шанец навярнуцца, а на дэманаў, каторыя працягваюць нападаць на хрысціян, адрываючы іх ад Божага культу. "Праклённыя" псальмы тады выконваюць абарончую функцыю. Гэтая малітва абараняе ад знішчэння іншымі.

Калі мы спрабуем абагульніць вучэнне пра Бога ў любым урыўку Бібліі, мы амаль заўсёды знаходзім у ім іншы фрагмент, які, здаецца, супярэчыць яму. Калі мы скажам, што Бог з'яўляецца абаронцам Ізраіля, гэта будзе праўдай. Але мы знойдзем тэксты, у якіх Ён забірае ў абранага народа перамогу. Мы кажам, што Бог міласэрны, але таксама справядлівы. Мы кажам, што Ён не спакушае чалавека, але выпрабоўвае Ева. Біблія ўвесь час паказвае, што рэальнасць значна багацейшая і больш разнастайная, чым мы думаем.

Вельмі добра, што ў Бібліі (і ў нашым жыцці) ёсць складаныя месцы, таму што дзякуючы гэтаму мы не можам чытаць яе бяздумна. Гэтыя тэксты задаюць сур'ёзныя пытанні пра маё жыццё, маю смерць, мой лёс. Калі б Біблія была лёгкай кнігай, то, наадварот, яна не была б такім важным творам для чалавецтва. У гэтай кнізе яшчэ ёсць што сказаць тым, хто не верыць.

> **"Праклённыя" псальмы – гэта малітва чалавека, які пакідае Богу помсту, бо сам не жадае чыніць справядлівасці."**

Ён просіць Найвышэйшага пакараць бязбожнікаў, тым самым прызнаючы ўласную трагедыю – прыгнечанасць і досвед несправядлівасці.

У псальмах праклятымі называюцца язычнікі і іх ідалы, якія ў габрэйскай Бібліі (Пс 96,5) уяўляюць сабой "ілюзіі" (гбр. hewel), але ў грэцкім перакладзе (Сэптуагінта) становяцца дэманамі (грэч. daimonia).

Таксама Псалтыр з'яўляецца выдатнай школай перажывання чалавечай эмацыйнасці такім чынам, што ўсё ўнутранае жыццё – у тым ліку прага помсты – аддаецца Богу ў малітве. У якасці прыкладу можна ўзяць прыгожы Псальм 109. Мы чытаем: "Яны адплацілі мне злом за дабро і нянавісцю за маю любоў. Няхай яго дні не будуць шматлікімі, а яго пасаду няхай займае нехта іншы! Няхай яго сыны будуць сіротамі, а жонка хай будзе ўдавой! (Пс 109,5.9). Аднак чацвёрты верш гэтага псальма вельмі вымоўны: "Яны абвінавацілі мяне ў абмен на маю любоў; а я малюся (Пс 109,4). У дадзеным кантэксце малітва – гэта не толькі мае добрыя і пабожныя думкі або добрае стаўленне да бліжняга, але і мае адданы Богу пачуцці, у тым ліку гнеў і нават нянавісць. Хрысціянскі ідэал пастаяннай малітвы, з якой нарадзілася літургія гадзінаў, заключаецца не ў тым, каб прамаўляць словы малітвы бесперапынна, але ў тым, каб самому "быць" цэласнай малітвай, каб усё, што належыць мне, – пазітыўнае, і адмоўнае – было на славу Божую.

Той, хто кажа, што не мае пачуццяў, пра якія гаворыць Псалтыр, альбо няшчыры, альбо закрыты і застаецца сам-насам са сваімі ўласнымі эмоцыямі. Здаровы чалавек, безумоўна, адчувае іх, і яму было б добра ведаць, як з імі змагацца. Калі я не магу з чымсьці справіцца, я іду да Бога. Чаму б мне не пайсці да Яго з такімі эмоцыямі? Таму што яны бязбожныя? Таму што яны памыляюцца? Лепш сказаць Богу, што мы жадаем нашым ворагам, чым сказаць нашым суседзям і сябрам, і гэтыя "жаданні" рэалізаваць. Вакол нас ёсць "пабожныя" хрысціяне, якія спяваюць, прыгожа складаюць рукі ў касцёле, а потым прыходзяць дадому і ладзяць "бойкі" са сваёй сям'ёй.

Парадаксальна, але цемра, якую кожны з нас у нейкім сэнсе мае ўнутры сябе, – гэта благаслаўленне для нас. Дзякуючы ёй мы можам дасягнуць святасці. У Другім Пасланні да Карынцянаў Павел прызнае слабасць, якая заахвоціла яго дзейнічаць, змяняцца. Такім чынам ён паказвае, што Божая ласка зусім не прыкаваная да маральнай дасканаласці. "Бо моц дасканаліцца ў слабасці" (2 Кар 12,9). Крохкасць чалавека змяншае вялікую ⇒

⇐ духоўную энергію і магутную сілу, якую называюць пакорай. Яна валодае патэнцыялам пераўтвараць мяне і тое, што вакол мяне, і гэтая сіла таксама заснавана на прызнанні цёмнага боку маёй прыроды. Гэтаму вельмі эфектыўна вучаць "псальмы-праклёны". Молячыся такімі словамі, я прызнаю сваю слабасць, напрыклад у непанаванні над пачуццямі, з каторымі не магу справіцца. "Праклённыя" псальмы абараняюць нашу нармальнасць. Яны таксама абараняюць праўду, што чалавек сапраўды можа звярнуцца да Бога з чым заўгодна. Псалтыр у гэтых цяжкіх урыўках, ненавісных, поўных гневу, злосці, крыўды, прапануе мудры вобраз хрысціяніна – непахіснага і пакорлівага адначасова. Так што маліцца з праклёнмымі псальмамі не толькі можна, але нават трэба. Гэта частка маёй чалавечнасці, якая патрабуе голасу.

Паспрабуем падвесці вынікі. "Праклённыя" псальмы – гэта, у першую чаргу, малітва супраць граху, супраць усяго, што не падабаецца ўва мне і ў іншых Богу. Па-другое, нам дазволена маліцца супраць грахоў нашых бліжніх, пакуль мы памятаем, што нам не дазволена ўзурпаваць Божую справядлівасць. Па-трэцяе, гэтыя праклёны прарочаць аб канчатковым няшчасці ненавернутага грэшніка. Таму, калі мы молімся такім прароцтвам, добра развіваць у сабе страх перад уласным зацвярдзелым сэрцам і жаданне ўнесці свой уклад у навяртанне нашых бліжніх.

*Літаратура*
*C. S. Gerstenberger, "Enemies and Evildoers in the Psalms. A Challenge to Christian Preaching", Horizons in Biblical Theology 4/5 (1982-83), p. 61-68.*
*R. Althann, "The Psalms of Vengeance against Their Ancient Near Eastern Background", Journal of Northwest Semitic Languages 18 (1992), 1–11.*
*E. Zenger, A God of Vengeance? Understanding the Psalms of Divine Wrath, Louisville 1996, p. 55-61.*
*G. A. Rendsburg and S. L. Rendsburg, "Physiological and Philological Notes to Psalm 137", Jewish Quarterly Review 83 (1993), p. 385–399.*
*С. Архипов, Зачем христианам "псалмы проклятия"? (Зачем христианам "псалмы проклятия"? – Православный журнал «Фома» (foma.ru)).*

**Карціна Алесандра Алоры ці Джавані Марыя Бутэры "Кацярына дэ Рычы разбівае дзяцей Вавілона". Карціна напісаная ў 1588-1590гг. і ўвасабляе ілюстрацыю да псальма 137. На алегарычнае разуменне карціны і псальма ўказвае адсутнасць на камені крыві. Малыя дзеці тут – гэта пажадлівыя і грахоўныя думкі і намеры, з якімі неабходна змагацца, пакуль яны не сталі зрэлымі і не пераўтварыліся ў грэшныя ўчынкі. Кацярына дэ Рычы – святая Каталіцкага Касцёла, вядомая сваім містычным вопытам і глыбокім рэлігійным жыццём. Жыла ў XVI ст. у Італіі.**

# Пачатак і падмурак хрысціянскай духоўнасці

**У гэтым месяцы Касцёл адзначае незвычайны юбілей. Чатырыста гадоў таму, 12 сакавіка 1622 г., Папа Грыгорый XV кананізаваў адразу чатырох вялікіх святых XVI стагоддзя: Ігнацыя Лаёлу, Францішка Ксаверыя, Тэрэзу Авільскую і Філіпа Нэры, а таксама Ізыдора Мадрыдскага, які жыў у XI-XII ст.**

■ **Айцец Віктар Жук SJ**, *г. Віцебск*

Першыя двое ў гэтым спісе – Ігнацый і Францішак – належалі да групы заснавальнікаў Таварыства Езуса (ордэна езуітаў). Яны пазнаёміліся падчас вучобы ў Парыжы, і Ігнацыю спатрэбілася няма-ла цярплівасці, каб пераадолець супраціў Францішка і схіліць да святых справаў маладога клерыка, які марыў пра "цёплае месцейка" ў касцельнай іерархіі, а не пра подзвігі святасці. Ігнацый пераканаў Ксаверыя, паўтараючы яму зноў і зноў словы Езуса: "Якая карысць чалавеку, калі ён здабудзе ўвесь свет, а душы сваёй нашкодзіць?" (Мц 16, 26). Дзякуючы намаганням Ігнацыя Францішак, які пражыў толькі 46 гадоў, стаў адным з найбольш вялікіх місіянераў Касцёла ўсіх часоў.

**Які сэнс існавання чалавека?**

Евангельская фраза, да якой звяртаўся Ігнацый, – сутнасць таго, што ў "Духоўных практыкаваннях" названа "Пачаткам і падмуркам". Кажа св. Ігнацый: *"Чалавек створаны, каб хваліць Бога, нашага Пана, шанаваць Яго і служыць Яму, і праз гэта збавіць сваю душу. Усё іншае на зямлі створана дзеля чалавека, каб дапамагчы яму дасягнуць мэты, для якой створаны."* Над гэтай праўдай варта паразважаць у перыяд Вялікага посту, што нам дадзены як "спрыяльны час", каб аднавіць у нашым жыцці слушныя прыярытэты. У падарожжы добра не забываць пра мэту, інакш мы можам апынуцца ў зусім не тым месцы, куды хацелі трапіць. Тое ж датычыць і падарожжа нашага жыцця: калі не памятаць, дзеля чаго мы прыйшлі ў гэты свет і які пункт прызначэння, можна згубіцца альбо таптацца на месцы.

> **Наша мэта – сустрэча з Богам у вечнасці,**

а дарога да яе – праведнае жыццё ў праслаўленні Бога і ў любові, якая ўцелаўляецца ў служэнні іншым. Тэкст "Пачатку і падмурку" нагадвае евангельскую праўду: усё тое, што нам дадзена ў жыцці, існуе дзеля таго, каб дапамагаць нам дасягнуць нашай мэты.

> **(Нядобразычліўцы прыпісалі Ігнацыю прынцып "Мэта апраўдвае сродкі",**

згодна з якім нібыта можна карыстацца злом і грахом, каб дасягнуць "найвышэйшых мэтаў", але гэта, безумоўна, няпраўда: спосаб дзеяння заўсёды павінен быць згодны з Божымі запаведзямі). Як тлумачыць далей наш тэкст, "чалавек павінен у той меры карыстацца ўсім створаным, у якой яно дапамагае яму ў дасягненні мэты, і ў той меры павінен пазбывацца яго, у якой яно ў дасягненні мэты яму перашкаджае". Тут знаходзіцца крытэрый, паводле якога ў святле веры мы глядзім на ўсе матэрыяльныя даброты, што нас акружаюць і якімі валодаем ці імкнёмся завалодаць, на нашыя таленты, здольнасці і ўменні, на адносіны з іншымі, нашыя звычкі і г.д.: ці гэта дапамагае мне рухацца ў бок маёй мэты ў Богу?

**"Бясстраснасць" – унутраная свабода адносна створаных рэчаў**

У хрысціянскай духоўнай традыцыі існуе адно паняцце, якое дапаможа заглыбіцца ў нашу тэму. Гаворка пра "бясстраснасць" (на лацінскай мове indifferentia), якая часам няправільна разумеецца як халодная "абыякавасць" ці "раўнадушнасць" да ўсяго. Паводле іншага, не зусім правільнага разумення, названая якасць – ідэал для тых, хто адмовіўся ад гэтага свету, уступаючы на шлях манаскага жыцця. Насамрэч бясстраснасць – гэта цнота, якая дазваляе ў правільным святле ўспрымаць усе Божыя дары, дадзеныя нам у жыцці, не адмаўляючы іх добрых якасцей, але і не дазваляючы, каб яны станавіліся перашкодай на нашым шляху да Бога. Інакш кажучы, гэта цнота сапраўднай унутранай свабоды адносна ўсіх створаных рэчаў: яна дазваляе мне карыстацца ці, наадварот, устрымлівацца ад рэчаў, магчымасцяў, адносінаў у той меры, у якой яны служаць майму прызначэнню ў Богу ці яму перашкаджаюць.

Напрыклад, амаль у кожнага сёння ёсць смартфон: гэта выдатны сродак камунікацыі і крыніца самай рознай інфармацыі. Але ўсе мы, напэўна, сутыкаліся з сітуацыяй, калі смартфон забірае занадта шмат часу, а зануразючыся ў паток (ці "стужку") навінаў, мы застаёмся з пачуццём пустаты ці непакою. Альбо калі гаворка пра нашыя здольнасці і таленты: часам вельмі хочацца паказаць свой розум ці ўменне, але ці ў засяроджанасці на сабе такім чынам мы не перашкаджаем іншай асобе праявіць сябе, дайсці да чагосьці самастойна? Але можа быць і наадварот: фальшывая пакора (ці элементарная лянота) змушае нас "не высоўвацца" тады, калі трэба прымяніць свае здольнасці дзеля дабра агульнага ці канкрэтных людзей.

> **Унутраная свабода, якая дазваляе нам з мудрасцю і любоўю выкарыстоўваць сродкі, дадзеныя нам Богам,**

– гэта дар, да якога варта імкнуцца і прасіць аб ім Духа Святога. Вялікі пост – асаблівая магчымасць, каб практыкавацца ў гэтай цноце, шчыра гледзячы на тыя сферы нашага жыцця, дзе мы яшчэ несвабодныя, дзе маем патрэбу ў раўнавазе адносна карыстання створанымі дабротамі. Гаворка не проста пра сілу волі і дысцыпліну (хоць яны – выдатныя сродкі ў гэтай справе), але пра паслухмянасць Божаму Духу, Які жадае прывесці нас да поўнай свабоды ў Хрысце. Пан Езус, Умілаваны Айца, Які выбірае служыць нам, каго палюбіў да канца, – вось узор дасканалай свабоды.

Біблійная традыцыя пакінула нам вымоўны вобраз – напамін пра неабходнасць задаваць сабе пытанне наконт сутнасці таго, што перад маімі вачыма альбо ў маіх думках і намерах. Калі ізраільцяне ў пустыні ўбачылі хлеб, спасланы ім Богам з неба, яны пыталіся: "Што гэта?" (па-габрэйску "man hu"). Слова "манна" захавала ў сабе гэтае пытанне: "што гэта?" Яно служыць нам запрашэннем распазнаваць, якім чынам тое, што мне спаслана Нябесным Айцом, можа паслужыць на маім шляху да Яго. Нават спакуса ў гэтай перспектыве становіцца выпрабаваннем, пераадольваючы якое я станаўлюся духоўна мацнейшым і набліжаюся да Бога.

# Святы заступнік Інтэрнэту

**4 красавіка Каталіцкі Касцёл успамінае Святога Ізыдора, біскупа і доктара Касцёла. Святы лічыцца заступнікам інтэрнэту і інтэрнэт-карыстальнікаў. Прапануем нашым чытачам пазнаёміцца з асобаю св. Ізыдора крыху бліжэй.**

**Чаму святы Ізыдор – заступнік інтэрнэту і інтэрнэт-карыстальнікаў?**

Міжнародны дзень Інтэрнэту адзначаецца 4 красавіка у многіх краінах планеты. Дата 4.04 вельмі падобная да памылкі HTTP 404, з якой часам могуць сустрэцца карыстальнікі Сеціва. Акрамя таго, 4 красавіка – дзень смерці святога Ізыдора Севільскага, апекуна вучняў і студэнтаў. Лічыцца, што ён стварыў першую ў гісторыі базу дадзеных. Іспанскія інфарматыкі са службы інтэрнэт-назірання ў Барселоне, натхнёныя кіраўніцтвам і рэкамендацыямі Папскай рады сацыяльных камунікацый, абралі святога Ізыдора апекуном Інтэрнэту. Лагічнасць гэтага, на іх думку, пацвярджаецца самым вядомым творам святога – першай у гісторыі энцыклапедыяй «Etymologiae» у 20 тамах. Гэта набор звестак з розных галін ведаў і жыцця, а таксама практычных навыкаў, упарадкаваных аналагічна сучасным базам дадзеных. Калі казаць працай, энцыклапедыя "нечалавечага мудраца" ў 20 тамах стала правобразам сучаснай Вікіпедыі. Рандомны выбар назваў кожнага тома нагадвае ключавыя словы пошуку ў Інтэрнэце: у Ізыдора Севільскага ёсць том, прысвечаны звярам і птушкам, ёсць том пра ежу, пра камяні і металы, пра часткі свету, пра Бога, цуды і знакі. Таму гэты святы, несумненна, заслугоўвае быць заступнікам ведаў і ўсяго новага.

**Легенда аб сяброўстве з пчоламі**

Ізыдор нарадзіўся каля 560 года ў Новым Карфагене, у правінцыі Мурсія. Легенда абвяшчае, што аднойчы карміліца будучага святога пакінула немаўля пад дрэвам у садзе. Пчаліны рой прызямліўся на вуснах дзіцяці, але не ўчыніў яму ніякай крыўды. Наадварот, пакінуў на вуснах палоску салодкага мёду. Гэтае здарэнне было прадказаннем незвычайнага дару мовы, які падчас жыцця меў святы.

**Як святы набыў стараннасць у вучобе**

З аднаго падання вядома, што аднойчы Ізыдор уцёк са школы, баючыся свайго строгага брата. Спыніўшыся каля студні, каб перадыхнуць, дзіця з цікавасцю разглядала ўзоры, зробленыя па краі студні. Жанчына, якая прыйшла набраць вады, патлумачыла яму, што гэтыя ўзоры пакінутыя вяроўкай, што церлася аб камень. Тут Ізыдор зразумеў, што калі ўжо вяроўка змагла сцерці камень, то стараннасць у вучэнні пераадолее непадатлівасць яго розуму. І вярнуўся ў школу. Пасля ён дасягнуў такіх поспехаў, што, пераўзышоўшы ўсіх настаўнікаў, стаў самым адукаваным чалавекам свайго часу: людзі здалёк прыходзілі паслухаць, як ён разважае пра найбольш узнёслыя рэчы.

**Біскупскае служэнне**

Ізыдор быў біскупам Севільі і займаўся аднаўленнем Касцёла. Святы Ізыдор стаў дабрадзеем многіх касцёлаў, кляштараў, школ і бібліятэк. Ён імкнуўся падняць інтэлектуальны і духоўны ўзровень духавенства. Яго ўспаміналі як чалавека выключнай дабрачыннасці. Ён быў выдатным пісьменнікам і пакінуў пасля сябе багатую літаратурную спадчыну.

Святы вельмі клапаціўся пра богаслужэнні, сачыў, каб яны здзяйсняліся годна дзеля Божай славы, і менавіта яго лічаць аўтарам масарабскай літургіі. Велізарныя натоўпы збіраліся вакол яго, каб запазычыць з крыніцы яго мудрасці, якая пераўзыходзіла, як казалі, мудрасць самога Саламона. Вернікі імкнуліся пачуць прадказанні святога Ізыдора, якія ён падмацоўваў шматлікімі цудамі. У іканаграфіі св. Ізыдор прадстаўляецца як стары біскуп, ля ног якога знаходзіцца кніга. У іканаграфіі яго таксама можна ўбачыць з пяром у руцэ і таксама з кнігай Codex etimologiarum, з вулеем ці пчоламі (што сімвалізуе яго мудрасць), з біскупскім посахам, німбам вакол галавы, крыжам і ў якасці вершніка.

**Выключны чалавек, выключная смерць**

Дасягнуўшы пажылога ўзросту і пакутуючы ад цяжкай хваробы, святы раздаў усё сваё багацце як міласціну і падрыхтаваўся з малітвай і пакаяннем сустрэць смерць, прадракаючы сумны лёс Касцёла ў Іспаніі. За чатыры дні да скону ён папрасіў перанесці сябе ў катэдру. У прысутнасці дапаможных біскупаў, святароў і вернікаў зняў сваю вопратку біскупа і апрануў пакаяннае адзенне, пасыпаў галаву попелам і правёў публічную споведзь. Ён прасіў, каб прабачылі яму ягоныя злачынствы і занядбанні, а пасля каб маліліся за яго. Пасля ён прыняў святую Камунію і развітаўся з усімі пацалункам супакою. Святы памёр 4 красавіка 636 года, маючы 82 гады. Фармальная кананізацыя св. Ізыдора адбылася у 1598 годзе, кананізаваў яго Папа Клеменс VIII. У 1722 годзе Папа Інакенцій XIII абвясціў св. Ізыдора доктарам Касцёла.




**Малітва перад карыстаннем Інтэрнэтам**

**Усемагутны Вечны Божа! Ты стварыў нас паводле вобразу Свайго і заклікаў да пошукаў дабра, праўды і прыгажосці, асабліва ў Тваім Адзінародным Сыне і нашым Госпадзе Езусе Хрысце. Просім Цябе, праз заступніцтва святога Ізыдора, біскупа і настаўніка Касцёла, каб мы ў нашым падарожжы па Інтэрнэце накіроўваліся толькі на тыя старонкі, якія згодны з Тваёй воляй, а ўсякага чалавека, якога мы сустрэнем (у віртуальнай прасторы), каб прымалі з літасцю і цярпеннем. Праз Хрыста Пана нашага. Амэн.**

**10 запаведзей карыстальніка Інтэрнэту**

**1.** Не лічы камп'ютар ідалам.
**2.** Усведамляй сабе, навошта ты сядаеш за камп'ютар.
**3.** Памятай, што ў Сеціве шмат не толькі добрай інфармацыі.
**4.** Сачы за тым, што робіць тваё дзіця ў Інтэрнэт-прасторы; пашырай свае веды.
**5.** Не забівай час і таленты перад камп'ютарам.
**6.** Не грэбуй небяспекамі, якія нясе ў сабе Сеціва.
**7.** Не – пірацтву і хакерам.
**8.** Выконвай прынцып абмежаванага даверу пры кантактах у сетцы Інтэрнэт.
**9.** Не забывай рабіць дабро з дапамогай Інтэрнэту.
**10.** Не замяняй сяброў камп'ютарам.

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Арфеева***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Алена Лаўрыновіч** *(Мёры)*, **Уладзімір Баравік** *(Мёры)*, **Кацярына Баравік** *(Мёры)*, **Станіслаў Вышадка** *(Завараты)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост)*, **Зенона Альксній** *(Браслаў)*, **Дануся Грабоўская** *(Навапалацк)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Эльвіра Богуш** *(Глінщчына)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Крысціна Седляр** *(Шылавічы)*, **Лізавета Лебядзева** *(Бягомль)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Таццяна Шук** *(Лявонпаль)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Крысціна Цярэнцьева** *(Браслаў)*, **Марыя Рачыцкая** *(Якубова)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Ганна Лук'янская** *(Пялікі)*, **Марыя Лекарэвіч** *(Ярэва)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Ганна Ермалёнак** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Елізавета Барткевіч** *(Слабодка)*, **Валянціна Лучына** *(Слабодка)*, **Марыя Угарэнка** *(Слабодка)*, **Вера Дундзер** *(Слабодка)*, **Яніна Вільчынская** *(Слабодка)*, **Люцыя Арсюкова** *(Слабодка)*, **Тэрэза Ганчаронак** *(Слабодка)*, **Аліна Гайдзель** *(Слабодка)*, **Гэлена Качаноўская** *(Слабодка)*, **Яніна Хвецковіч** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Анжэла Нарушэвіч** *(Слабодка)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Тэрэза Стэльмачонак** *(Гавейкі)*, **Марыя Мількевіч** *(Веркаўшчына)*, **Жана Яроцкая** *(Браслаў)*, **Вольга Цімафеева** *(Янковічы)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Алена Махальская** *(Падсвілле)*, **парафіяне з Дуброўна**, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Голубева Л.В.** *(Дуброўшчына)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Давыдзенак Л.П.** *(Усце)*, **парафіяне з Браслава**, **Мурзенак В.М.** *(Паставы)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Марыя Ткачонак** *(Мосар)*, **Яніна Стаўронская** *(Луцк Масарскі)*, **Даната Алейнік** *(Мосар)*, **Станіслава Носка** *(Мосар)*, **Ірэна Сіманенкава** *(Мосар)*, **Чэслава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Яніна Ластоўская** *(Мосар)*, **Ядвіга Лысёнак** *(Мосар)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Марыя Міронава** *(Мосар)*, **Уладзіслава Бохан** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Альжбета Калмук** *(Мосар)*, **Алена Ліпская** *(Мосар)*, **Чэслава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Ванда Альсевіч** *(Мосар)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Зоф'я Ластоўская** *(Радзюкі)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

# “Каштоўная ў вачах Пана смерць Яго святых”

**19 лютага святары, кансэкраваныя асобы і вернікі сабраліся ў Росіцы, каб ушанаваць памяць блаславёных мучанікаў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча.**

**Вікторыя Філіпенка**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч,** *фота*

Росіца – асаблівае месца беларускай зямлі. Месца, дзе амаль восемдзясят гадоў таму падчас карнай аперацыі “Зімовае чараўніцтва” загінула шмат бязвінных людзей. Многа нашых суайчыннікаў згарэла тут зажыва ў страшным агні, прыняўшы пакутніцкую смерць. І сярод іх былі тыя, хто мог бы пазбегнуць страшнай смерці, мог зберагчы сваё жыццё – айцы-марыяне Юры і Антоні. Але яны пажадалі застацца разам з даручанай ім паствай, каб падрыхтаваць іх да сустрэчы з Панам. Верныя Хрысту, свайму пакліканню і словам Евангелля, блаславёныя засталіся з людзьмі да канца, да пакутніцкай страшнай смерці ў агні.

Таму сёння прыбываюць у Росіцу пілігрымы. Таму сёння ўзносіцца малітва праз заступніцтва блаславёных Юрыя і Антонія. І малітва гэтая прасякнутая падзякай Пану за тое, што ў такі няпросты час чувае над намі, вучыць нас мужнасці і сапраўднаму ахвярнаму служэнню.

Нягледзячы на няспрыяльнае надвор’е, пандэмію, далёкую адлегласць, у Росіцу прыехалі пілігрымы з розных куточкаў Беларусі: з Мінска і Глыбокага, Полацка і Жодзіна, Оршы, Верхнядзвінска і інш. Здавалася, што ўсе гэтыя нявыгоды яшчэ больш узмацнялі людзей, падкрэслівалі неабходнасць бясконцага даверу да Творцы і клопату перш за ўсё пра сваю душу.

Менавіта над загартаваннем душы засяродзіўся біскуп Алег Буткевіч падчас гаміліі.

“Людзі нашай зямлі, праяўляючы духоўны гераізм, ратавалі чалавека. І гаворка ідзе не толькі пра жыццё тут, на зямлі. Святары ратавалі людскія душы, кааб, стаўшы перад Панам, яны маглі атрымаць жыццё вечнае. Чалавек, які будуе жыццё без Бога, зруйнуе яго. Больш за тое, чалавек, будуючы жыццё без Бога, з часам пачынае руйнаваць жыццё іншага чалавека. Якая карысць чалавеку, калі ён здабудзе ўвесь свет, а сваю душу загубіць? (пар. Мц 16, 25). Гераізм і прыклад блаславёных мучанікаў менавіта ў тым, што яны засталіся. Засталіся, каб людзі, што апынуліся ў касцёле, перажыўшы страшную трагедыю, мелі магчымасць паяднацца з Богам. Сярод клопатаў штодзённасці на якім месцы стаіць нашая душа? Ці памятаем мы, што яна ўвогуле ў нас ёсць, што яна патрабуе клопату пра сябе? Ці памятаем мы, што нашая душа патрабуе ежы? Чым кормім мы нашую душу сёння?” – над гэтымі пытаннямі запрасіў паразважаць біскуп Алег.

Пасля Імшы прысутныя накіраваліся на месца мучаніцкай смерці блаславёных айцоўмарыянаў. Разам са святарамі Юрыем і Антоніем у Росіцы ў агні загінулі больш за паўтары тысячы чалавек.

Спяваючы Літанію да ўсіх святых, пілігрымы і духавенства даверылі свае малітвы нашаму Пану. На пляцы пасля кароткай прамовы і малітвы вернікі ўшанавалі крыж і паставілі знічы на ўспамін пра загінулых тут людзей.



## На красавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 красавіка – дзень нараджэння** адзначаюць кс. пралат Францішак Кісель *(Полацк)*, кс. Чэслаў Курэчка MIC *(Росіца)*;

**4 красавіка – дзень нараджэння** адзначае кс. Эдуард Сінкевіч SCJ *(Варапаева)*;

**8 красавіка – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае кс. Мікалай Ліпскі *(Новалукомль)*;

**10 красавіка – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае кс. Аляксандр Півавар *(Бешанковічы)*;

**11 красавіка – дзень нараджэння** адзначае кс. Валеры Орсік *(Дзеркаўшчына)*;

**13 красавіка – дзень нараджэння** адзначаюць кс. Сяргей Сурыновіч *(Друя)*, кс. Алег Хмылко *(Полацк)*;

**14 красавіка – Вялікі Чацвер – дзень устанаўлення сакрамантаў Эўхарыстыі і Святарства**;

**19 красавіка – імяніны** адзначае кс. Валеры Марціноўскі *(Віцебск)*;

**22 красавіка – дзень нараджэння** адзначае кс. Юрый Бараўнёў *(Порплішча)*;

**23 красавіка – імяніны і дзень нараджэння** адзначае кс. Юрый Бараўнёў *(Порплішча)*; **імяніны** адзначаюць кс. Юрый Барок, кс. Юрый Жаўняровіч *(Ахрэмаўцы)*, бр. Войцех Врублеўскі OFMCap *(Докшыцы)*;

**24 красавіка – дзень нараджэння** адзначае бр. Войцех Врублеўскі OFMCap *(Докшыцы)*;

**25 красавіка – імяніны** адзначае кс. Марат Казлоўскі *(Мосар)*;

**26 красавіка – дзень нараджэння** адзначае кс. Генадзь Добрук *(Гродзенская дыяцэзія)*;

**28 красавіка – імяніны** адзначаюць кс. Віталь Бяленік *(Падсвілле)*, а. Віталь Бандаронак OFMCap *(Докшыцы)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***

# ТЭСТ на “А”

**Паважаны чытачы! У сённяшнім нумары “Каталіцкага весніка” мы прапануем Вам шэраг пытанняў і звяртаем увагу, што кожны варыянт адказу, у тым ліку правільны, пачынаюцца на літару “А”.**

**1 Як называецца рэфрэн, які выконваецца перад і пасля псальму ці спеву ў хрысціянскай літургіі?**



**А.** Акламацыя
**Б.** Антыфона
**В.** Акт

**2 Згодна з Пісаннем сюды зышоў Езус перш, чым уваскрэснуць?**



**А.** Адхлань
**Б.** Арэал
**В.** Адхон

**3 Дысцыпліна, якая вывучае жыццяпісы святых, называецца...**



**А.** Агіяграфія
**Б.** Арфаграфія
**В.** Аэраграфія

**4 Зварот Папы, прысвечаны пэўнаму аспекту жыцця Касцёла гэта – ...**



**А.** Анатацыя
**Б.** Адгартацыя
**В.** Альтэрацыя

**5 Як адным словам называецца адпушчэнне грахоў у сакраманце пакаяння?**



**А.** Абсарбацыя
**Б.** Абстыненцыя
**В.** Абсалюцыя

Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16

**6 Большасць даследчыкаў мяркуе, што Езус размаўляў на ... мове.**




**А.** Арамейскай
**Б.** Арабскай
**В.** Амхарскай

**7 Аллелюя, аллелюя, аллелюя – гэта ...**



**А.** Акламацыя
**Б.** Альтэрацыя
**В.** Аберацыя

**8 Тры Каралі – гэта свята...**



**А.** Аб’яўлення Пана
**Б.** Ахвяравання Пана
**В.** Аб’яднання Пана

**9 Гэта літургічная кніга складаецца з трох раздзелаў: сакраманты, сакраманталіі і набажэнствы. Яна змяшчае найбольш распаўсюджаныя ў паўсюдным Касцёле і ў Беларусі набажэнствы, блаславенні, літаніі і малітвы.**



**А.** Анталогія
**Б.** Асновы
**В.** Агенда

**10 Прабачэнне перад Богам часовай кары за грахі, віна якіх ужо адпушчана, гэта...**



**А.** Адпуст
**Б.** Абстыненцыя
**В.** Абсалюцыя

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

Каталіцкі ВЕСНІК №3 (132) сакавік 2022 г.

# Интервью с экзорцистом-марианином

**В Беларуси всего несколько экзорцистов — людей, которых церковь наделила властью изгонять демонов. Один из них живет в глухой деревушке на самой границе с Латвией. Монах-священник Александр Жерносек еще во время учебы в семинарии присутствовал на жутких обрядах по изгнанию демонов, а потом и сам получил разрешение церкви бороться со злом.**

«Я думаю, что в большинстве своем ведьмы, колдуны — все, кто всерьез этим занимается, а не для шарлатанства, — они одержимы. Таинственная сила, которую они имеют, типа исцелять людей, часто связана с присутствием демона», — говорит священник. В сегодняшнем материале он вспоминает самые жуткие и необъяснимые истории, говорит о белорусских ведьмах, оккультистах и бесноватых бабках-шептухах.

Александр Жерносек жил при монастыре в Польше, служил в Жодино и Минске, потом долгих двенадцать лет провел в Орше, где, в частности, посещал заключенных местной колонии. Говорит, это был удивительный, сложный и интересный опыт — говорить с людьми, совершавшими ужасные вещи, молиться вместе с «блатными», оставаться наедине с убийцами. — Я думал, что все будет как в американском кино: на вышках дежурят автоматчики, а по двору ходят заключенные в оранжевых комбинезонах. Оказалось, у нас все не так. Оружия в тюрьме вообще быть не может, иначе его однажды отберут зэки и устроят бунт.

Очень показательная история со мной в самый первый день приключилась. Я приезжаю в колонию, меня отводят в актовый зал и говорят: «Работайте, часа через два вернемся». То есть со мной вообще никого из охраны не остается. И вот я стою перед десятками зэков и думаю: «Все, конец», — вспоминает священнослужитель. Со временем ксендз привык к положению дел и в какой-то момент заметил, что с преступниками иногда ему даже интереснее работать, чем с примерными прихожанами: некоторые из заключенных действительно искали спасения, искали Бога.

— Я понимал, что почти все они выйдут на свободу, вернутся в криминальную среду и продолжат жить по своим понятиям. Потому что кроме блатных друзей их никто не ждет. Но единицы все же исправлялись и потом даже звонили мне спустя много лет.

Потом епископ позвал отца Александра на разговор, во время которого сообщил, что назначает его экзорцистом, то есть наделяет силой церкви для изгнания демонов. Разговор был очень будничным, даже формальным. Никакого обряда, никаких громких слов и молитв на латыни. Почему именно его — отец Александр не знает. Наверное, так было нужно епархии. Позже священнослужителя перевели в Росицу — маленькую деревушку в приграничной зоне. Он живет в доме у реки, большой столетний костел стоит прямо через дорогу. Приход у него самый что ни на есть скромный: по воскресеньям на службу приходит от двух до четырех человек, у них, можно сказать, личный ксендз. В последнее время за помощью в изгнании бесов к ксендзу практически не обращаются, но ему все же есть о чем рассказать.

**— В 2011 году в США было 15 экзорцистов, а сегодня их больше сотни. В Европе количество специалистов такого рода тоже выросло. С чем это связано? С убеждениями папы римского, увеличением масштаба проблемы, ростом популярности сверхъестественного среди обычных людей?**

— Вряд ли это связано с убеждениями папы. Экзорцистов всегда назначает местный епископ: если есть нужда и люди обращаются, кого-то назначают. Когда-то в Польше, например, практически не было экзорцистов, а потом их стало слишком много, и прихожане начали по каждому чиху обращаться. Типа: «Помогите, у меня муж пьет».

Может быть, это также связано с тем, что зло стало проявлять себя немного иначе. Раньше к чародею еще попасть надо было: найти его, приехать. А сейчас открыл интернет — и «работай» по видеосвязи, по книгам. А все проблемы с этого начинаются — с увлечения магией.

**— А в вашем случае какая была потребность? Вам епископ объяснял, что случилось?**

— Был какой-то человек, над которым нужно было совершить обряд, а специалистов не было. Но я конкретно за него и не молился — меня на перспективу назначили.

**— Когда вы впервые столкнулись с человеком, которого посчитали одержимым?**

— Когда учился в семинарии в Польше, я попал в Украину. У нас были братья-священники, которые молились за одержимых. Я был тогда клириком (т. е. студентом семинарии), зашел в комнату, где жила одна женщина с проблемами. Я, наверное, даже не понимал, что она одержимая, но знал, что просто так сюда не едут. Она сидела и смотрела на меня. Я даже помню, как она одета была, молодая девушка. Зашел брат-монах и говорит ей: смотри, у нас гости, поприветствуй их. Как только он это сказал, у нее вытянулись зрачки, стали кошачьими, и она не своим голосом поздоровалась. Он положил ей руку на плечо — и она упала в обморок. Я тогда подумал, как бы мне не убежать от страха оттуда.

Потом я как-то помогал во время молитвы. Наверное, тогда я понял, что есть экзорцисты, назначенные епископом, а могут быть также священники, которые получили призвание от Бога. На той молитве священник обращался к демону и спрашивал, кого из присутствующих он боится. И демон показал на священника, который не был экзорцистом, а над экзорцистом даже немного посмеялся.



Один такой священник рассказывал мне, как однажды к нему пришли люди и стали жаловаться, что дома что-то не то творится — кто-то воет, бегает, стонет. Он пришел к ним домой и с ходу говорит: «Принесите подушку из той комнаты и разрежьте». Они режут — и достают оттуда перья, завязанные в узел. Оказалось, подушку им на свадьбу подарили родственники, которые были против этого брака. И прокляли: живите долго и счастливо, дорогие молодожены. А священник получил знание от Бога, что над этой подушкой совершали магический обряд. Такие вещи всегда нужно уничтожать, даже если они дорогостоящие. Еще както у меня была очень простая задача — держать ногу 19-летней девушки. Но я не справился: она отбросила меня, как мячик.

**— А у вас призвание?**

— Трудно ответить. Я просто имею право этим заниматься. Надо понимать, что экзорцист — это не супермен, который взял и прогнал демона. Так только в кино. На самом деле это сложная, долгая работа, которая начинается с простого разговора. Нужно найти причину, почему демон стал оказывать такое влияние. Как правило, это будет грех, и необходима глубокая исповедь, отречение от греха и безбожной жизни, к чему, к сожалению, многие люди оказываются не готовы. Но не реже оказывается, что у человека психологические проблемы и ему надо к психиатру или психологу.

**— Как отличить психическую проблему от одержимости?**

— Лично я считаю, что если есть натуральные или логические объяснения, то существует большая вероятность, что идет разговор о психологических проблемах. В случае одержимости часто перестают работать все известные нам правила физики и химии. Это когда никто не может ответить на вопрос, как человек может говорить на языке, которого не знает, как худенькая девушка может вдруг на несколько минут обладать нечеловеческой силой, как разные предметы по квартире сами летают или почему вдруг появился едкий запах серы. В таких случаях может понадобиться помощь экзорциста. Но мне часто приходилось отказывать людям, даже если они действительно одержимы.

**— А так можно?**

— Я считаю, что можно. Нельзя экзорциста воспринимать как очередную бабку-шептуху. Я могу помочь только человеку, который начал сам сражаться со злом, который обращается к Богу, который идет по пути покаяния к исповеди, хочет отказаться от своего безбожия. Если этого нет, то я ничем помочь не могу. От влияния зла освобождает Бог, а не экзорцист. Поначалу я стараюсь с человеком поговорить, пытаюсь найти причину происшедшего, ведь бесноватость просто так не появляется. Когда возможная причина уже понятна, говорю человеку о необходимости исповеди, потом, если это необходимо, начинаем молиться. Но если я вижу, что я проведу обряд, а через неделю человек вернется к оккультным практикам, то зачем мне тратить время и силы? Может, я поступаю неправильно. Не знаю. Но мы читаем в Евангелии, как сатана вошел в Иуду во время Тайной вечери и Иисус не стал изгонять дьявола из своего ученика. Почему? Потому что это был выбор Иуды, это был его грех и в Иуде не было в тот момент покаяния, он с этим ничего не собирался делать.

**— Вы говорите об оккультных практиках. То есть церковь признает существовании магии?**

— Это невозможно не признавать. Понимаете, для меня духовный мир такой же реальный, как и материальный. Нельзя сказать: я в это не верю, а значит, этого не существует. Вот сидите вы в Минске и говорите: «Я никакого отца Александра не видел, значит, нет его». Но я есть, и ваши слова никак не повлияют на мое существование. Есть Бог, он живой. Есть ангелы. Есть демоны. Есть магия. Одержимость никогда не приходит просто так, без причины. За этим всегда стоит история, где-то человек точно вляпался. И это всегда или почти всегда связано с обращением к потустороннему. Оккультизм, гадалки, экстрасенсы и так далее. Я все это кидаю в один мешок под названием «магия». Не хочу вдаваться в подробности и сортировать. В духовном плане нет такой большой разницы между этими понятиями, между «черной» или «белой» магией. Вопрос звучит совсем подругому: помощь пришла от Бога или «неизвестно откуда», от «таинственной силы», некой «энергетики».

**— Кроме магии человека что-то может сделать бесноватым?**

— На моей практике такого не было, но коллеги из Латинской Америки рассказывали, что иногда такое случается, например, с проститутками. Правда, порой в их случае грех блуда и магии может идти в паре: они, например, могут проводить обряды черной магии, чтобы их пуля во время перестрелки не зацепила.

**— Хотелось бы поговорить про «народность» белорусского христианства. В нашей стране, особенно на Полесье, до сих пор ходят к бабкам-шептухам, в каждой деревне есть история про свою ведьму, во многих регионах отмечают религиозные праздники, которые к христианству отношения не имеют. Это в большей степени касается православия, как мне кажется, но и представители католической церкви порой обращаются к магии. Как к этому относятся священнослужители и особенно экзорцисты? Все это может иметь последствия или «по незнанию не считается»?**

— У нас этих бабок до сих пор куча. У нас шептухи, а где-то в других странах больше парапсихология, контакты с восточными религиями, парамедицина, эзотерика и все такое. С большего это все одно и то же, только форма разная. В книге Второзакония четко написано, что Бог запрещает абсолютно разные формы идолопоклонства. Тогда были одни практики, сейчас немного другие. Но в духовном плане между ними нет большого различия. И тема эта очень важная. Когда Господь впускает израильский народ в землю обетованную, Бог говорит Моисею: «Когда встретишь заклинателей, ворожей и прочих, всех изгони из этой земли, ибо именно за эти грехи они потеряли свою землю».

